© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013


# РУНЬ

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ ЛІТВЫ

ISNN 1392-7671 WWW.RUNBEL.LT

23 траўня 2002 № 47 кошт 1 літ


# Партрэт віленчука

## Да 80-годзьдзя з дня нараджэньня Лявона Луцкевіча



*Зьлева направа: Леванід Кароль, Лявон Луцкевіч, Мацей Смаршчок. Барановічы, 1943 г.*

Невялікая кніжка з вокладкай колеру чырвонай цэглы, зь якой збудаваныя віленскія гатыцкія касьцёлы Сьв. Мікалая, Бэрнардынаў і цуда віленскай готыкі – касьцёл Сьв. Ганны. "Вандроўкі па Вільні" – гэта ня проста вандроўкі па старажытным горадзе, гэта вандроўкі па беларускай Вільні. У гэтым шматнацыянальным горадзе кожны мае сваю Вільню: літоўцы – сваю, расейцы й палякі – сваю, жыды – сваю – Паўночны Ерузалім. А беларускую Вільню адкрыў і паказаў аўтар "Вандровак па Вільні" Лявон Луцкевіч...

Лявон Луцкевіч – каранны віленчук – радзіўся ў Вільні 17 сакавіка 1922 г., вучыўся ў легендарнай Віленскай Беларускай Гімназіі, затым у Тэхнічнай школе. Пасьля арышту бацькі, Антона Луцкевіча, увосені 1939 г. пераехаў са старэйшым братам Юркам у Коўна, дзе "хлопцаў" падтрымоўваў Клаўдзій Дуж-Душэўскі, вядомы літоўскі архітэктар і беларускі культурна-грамадзкі дзеяч. У Коўне Лявон закончыў тэхнічную школы й здабыў спэцыяльнасьць электрыка.

З 1941 да 1942 г. браты Лявон і Юрка настаўнічалі ў 8-гадовай школе ў Радашковічах, а з 1942 да 1944 г. Лявон быў дырэктарам Сярэдняй мастацкай школы ў Баранавічах, дзе, а таксама ў Мэдычнай школе, выкладаў беларускую мову й літаратуру. Ягоныя колішнія вучні ўспамінаюць свайго настаўніка, які ня толькі знаёміў іх з роднай літаратурай, але й многім паказаў шлях да Беларусі.

Арыштаваны ў 1945 г., асуджаны на 15 гадоў лягероў, ён прайшоў "дарогу па муках" – ад Менскай "амэрыканкі" да капальняў золата ў пасёлку імя Матросава на далёкай Калыме. Звольнены ў 1956 г., пражыў на Калыме яшчэ год разам з братам – іхная сустрэча пасьля 10-гадовай разлукі была сапраўдным цудам – і ў 1957 г. вярнуўся ў родную Вільню. Працаваў па спэцыяльнасьці, у тым ліку больш за 20 гадоў намесьнікам галоўнага энэргетыка завода ЖБК-3. Аднак работа задавальняла толькі матар'яльныя патрэбы. І ён пачаў зьбіраць матар'ялы пра дзядзьку й бацьку – Івана й Антона Луцкевічаў, пра Віленскую Беларускую Гімназію, пра Беларускі Музэй ім. І. Луцкевіча, пра Базыльянскія муры, у якіх месьціліся названыя беларускія ўстановы. І, мусіць, ад Базыльянскіх муроў, гэтага цэнтра беларускасьці ў міжваенныя гады, пачалося ягонае зацікаўленьне беларускай Вільняй. Ён пачаў зьбіраць весткі пра беларускія арганізацыі і ўстановы, выдавецтвы, кнігарні, друкарні, рэдакцыі газэтаў і часопісаў. Шукаў у Вільні сьлядоў беларускіх дзеячоў – ад часоў ВКЛ да 1944 г., знаходзіў адрасы мясьцінаў, зьвязаных зь беларускім адраджэнскім рухам, магілы беларускіх дзеячоў на старажытных могілках Росы й на Еўфрасіньнеўскіх могілках.

Зьбіраў ён гэтыя матар'ялы з думкаю пра будучую кніжку, а пакуль што час ад часу пісаў асобныя артыкулы. Аднак першы артыкул Лявона Луцкевіча "Базыльянскія муры" за подпісам Лявон Крывіцкі зьявіўся ў беластоцкім беларускім календары толькі ў 1985 г. У 1992 г. скарочаны варыянт "Вандровак" быў апублікаваны ў часопісе "Нёман" (на расейскай мове), яшчэ адзін кароткі артыкул "Старажытная Вільня – беларуская Вільня", ілюстраваны фатаздымкамі аўтара, быў надрукаваны ў часопісе "Беларусь". А яшчэ былі перадачы "Вандроўкі па Вільні" на радыё "Свабода" і на Літоўскім радыё. А яшчэ – экскурсіі, якія для гасьцей Вільні, як зь Беларусі, так і з далёкага замежжа, вадзіў Лявон Луцкевіч. Ягоны аповяд пра горад, пра беларускія мясьціны ў ім быў жывы, эмацыйны, абгрунтаваны на глыбокіх ведах. Гаварыў ён свабодна, на чыстай беларускай мове. Пасьля адной такой экскурсіі кіраўнічка хору з польскага гораду Вроцлава праф. Краснадэмбска напісала на ахвяраваней Лявону Луцкевічу кніжцы "п. Лявону Луцкевічу, хадзячай энцыкляпэдыі Вільні, з падзякай, з пашанай і захапленьнем". Праф. М. Ткачоў, будучы ў гасьцях у Л. Луцкевіча, пераглядзеў машынапіс "Вандровак" і сказаў: "Будзем друкаваць!" Прыяжджала зь Менску рэдактарка, каторая ўзгодніла з аўтарам тэкст будучай кніжкі, і прафэсійны фатограф – ён зрабіў цэлую сэрыю фатаздымкаў да кніжкі. Аднак пасьля сьмерці М. Ткачова справа выданьня "Вандровак" заглохла, машынапіс недзе згубіўся. І толькі ў 1997 г. у віленскім выдавецтве "Рунь" рашылі выдаць "Вандроўкі", скарочаны варыянт. Ужо зусім хворы Л. Луцкевіч пераглядаў і правіў тэкст. Кніжка выйшла ў 1998 г. ужо пасьля сьмерці аўтара.

Працяг на старонцы 2

# Друскенікі – другі бок мэдалю

Хто ў шматмільённым Савецкім Саюзе ня ведаў гэтага курорта ў Літве? Яго ведалі ўсе й паўсюль, як ведаюць Сочы, Капры, Залатыя Пяскі або Гаваі. Але гэта ўсё марскія курорты, а Друскенікі – курорт сухапутны: выспа ў агромністым моры хваёвых лясоў (150 тыс. га). Незвычайную прыгажосьць гэтаму мястэчку надае Нёман, ягоны прыток, рачулка Ратнічанка, ды густа зарослыя цяпер азёры Друсконіс і Дзявочыя Вочы. Гісторыя Друскенікаў цесна зьвязаная з гісторыяй ВКЛ. У 1635 г. яны ўспамінаюцца як вёска, а з 1765 г. яны прызнаныя лячэбным мейсцам, у 1837 г. тут была пабудаваная лячэбніца з 12-цю ваннамі. З 1920 па 1939 г. Друскенікі, як і ўся Заходняя Беларусь, уваходзіла ў склад Польшчы. Гэты пэрыяд мала згадваецца як у савецкай, так і ў сучаснай літоўскай гістарычнай літаратуры. А між тым, напрыклад, тут любіў адпачываць Юзэф Пілсудзкі, каторы называў Друскенікі "паэзіяй маёй душы". У гарадзкой Залатой Кнізе ён зрабіў такі запіс: "Друскенікі былі неспадзяванкай у думках Творцы ў часе адпачынку, калі ён усьміхнуўся". У Друскеніках Ю. Пілсудзкі спаткаўся з маладой пекнай лекаркай Яўгеніяй Лявіцкай. Паміж імі, як кажуць, усталявалася "паразуменьне сэрцаў". Лявіцкая залажыла ў Друскеніках кліматычны парк, у якім лячыла сонцам, паветрам і рухам. А Пілсудзкі пабудаваў каля Ратнічанкі дом з круглых бярвеньняў, любіў шпацыраваць уздоўж Нёмана, даходзіў да "Выспы Каханьня", і далей – ажно да польскіх могілкаў, дзе пахавана 164 польскія жаўнеры, удзельнікі баёў 1920 г. На вул. Кудзіркі каля касьцёла ёсьць парафіяльны дом (да вайны ў ім месьціўся магістрат), у якім Пілсудзкі атрымаў тытул Ганаровага грамадзяніна Друскенікаў. У Друскеніках Пілсудзкі прыймаў шмат высокіх гасьцей. Так, у 1930 г., быў у яго міністар замежных справаў Італіі Дзіна Граньдзі... У 1961 г. "Дамок Юзэфа Пілсудзкага" разабралі.

Паводле савецкіх энцыкляпэдыяў, 1920-39 гг. былі гадамі польскай акупацыі, прыгнёту й эксплюатацыі беднага мяйсцовага насельніцтва. Канечне, было тада ўсяго. Але чаму ніхто ня кажа, што перад гэтым было 123 гады расейскага панаваньня, Першая сусьветная вайна й голад? Сёньня нават цяжка сказаць, што было-б з тутэйшым людам, калі-б Пілсудзкі з Жэлягоўскім не затрымалі й не адкінулі на Ўсход Чырвоную Армію. Напэўна, не было-б тады прыбалтыйскіх "буржуазных" рэспублікаў, а на мейсцы Рэчы Паспалітай была-б Польская ССР.

Лічыцца, што сёньня ў Друскеніках жыве каля 2 тыс. палякаў. На вул. Клёно (Кляновай) ёсьць у іх свой дом з шыльдаю "Зьвёнэк Полякув Друскеньнік". Я некалькі разоў падыходзіў да яго, аднак на дзьвярах "Зьвёнзку" мяне сустракаў агромністы замок. "Так бывa завшe", – патлумачыла мне нейкая кабета. Польскія школы былі ў Друскеніках да 1960 г. Цяпер няма ніводнай.

Працяг на старонцы 8



*Друскенікі. Разабраная чыгунка на Горадню.*



*Вандроўка па Вільні. 1989 г.*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013





# Слова пра Лявона Луцкевіча

Нядаўна я атрымаў зь Вільні цікавую й зьмястоўную кнігу сьв. Памяці Лявона Луцкевіча "Вандроўкі па Вільні". На жаль, аўтару не пашчасьціла патрымаць яе ў руках. У 1993-94 гг. амаль усе тэксты "Вандровак" мне ўдалося праслухаць у аўтарскім прачытаньні па радыё "Свабода".

Я добра ведаў Лявона Антонавіча Луцкевіча. Напрацягу 10 гадоў, з 1980 па 1990 г., у часе канікулаў і летняга адпачынку я прыяжджаў у Вільню, как папрацаваць у архівах і бібліятэках. Калі не знаходзілася мейсца ў гасьцініцы, дык яе замяняла кватэра Лявона Антонавіча. У кватэры было шмат беларускіх кніжак і часопісаў розных гадоў выданьня, альбомаў. Тут я ўпершыню пазнаёміўся з творчасьцю й жыцьцяпісам знакамітага беларускага сьпевака Міхася Забэйды-Суміцкага, упершыню пачуў мілагучныя беларускія песьні ў выкананьні Лявонавага пляменьніка Даньчыка. Часам у кватэры гучала клясычная музыка.

Лявон Антонавіч заўсёды гатовы быў дапамагчы мне, параіць, падказаць. Даведаўшыся, што раней я рэдка бываў у Вільні, слаба ведаю гісторыю горада, ён і мне зрабіў "вандроўку па Вільні", пазнаёміў зь беларускімі мясьцінамі, якія выдатна ведаў. Дзядзька Лявон ніколі не шкадаваў свайго часу, бескарысьліва дзяліўся сваімі ведамі з усімі, хто прыяжджаў зь Беларусі.

У чэрвені 1985 г. і сам Лявон Антонавіч з групаю навукоўцаў зь Вільні пабываў у Браславе, Шаркаўшчыне, Германавічах, Лужках, Глыбокім, Маладзечне. Госьці наведалі ў Германавіцкай сярэдняй школе гісторыка-краязнаўчы музэй, каторы толькі пачаў стварацца вучнямі пад кіраўніцтвам настаўніцы Ады Райчонак. Лявон Луцкевіч параіў стварыць у Германавічах, якія знаходзяцца ў самым цэнтры былога Дзісьненскага павету, Музэй мастацтва й этнаграфіі ім. Язэпа Драздовіча. І вось ужо 10 гадоў гэты музэй працуе. Ягоныя наведнікі ня толькі вучні і студэнты зь Беларусі. Тут бываюць госьці з Латвіі, Літвы, Польшчы. У траўні 2000 г. музэй наведалі Вітаўт і Зора Кіпелі з ЗША. Яны пазнаёміліся з працамі нашага славутага земляка, далі высокую ацэнку рабоце музэю, дзе зьберагаецца ягоная спадчына.

Сёлета Лявону Луцкевічу споўнілася 80 гадоў. Памяць аб ім будзе вечна жыць у маім сэрцы і ў сэрцах тых, хто ведаў яго, каму ён, паводле словаў Галіны Войцік, "адкрыў шляхі да Беларусі"

**Кліменьці Кажан**

*Шаркаўшчына*

---

11 красавіка сваякі ды беларуская грамадзкасьць у Брытаніі разьвіталіся з слынным Беларусам **Янкам Калбасом**, які памёр 4 красавіка пасьля цяжкай працяглай хваробы.

Так склалася, што большую частку свайго жыцьця сьветлай памяці спадару Янку давялося правесьці на чужыне, далёка ад роднага дому, ад Беларусі, але ён увесь час заставаўся беларусам і шчырым патрыётам сваёй Бацькаўшчыны.

Пасьля вайны, калі многія беларусы вымушаныя былі ратавацца ад бальшавіцкай навалы, спадар Янка апынуўся ў Англіі. Ніколі не заставаўся ўбаку ад беларускіх грамадзкіх справаў, браў актыўны ўдзел у жыцьці Беларускай Аўтакефальнай царквы: быў сакратаром. Не баяўся палітыкі: быў сябрам Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі (ЗБВБ) і сябрам ABN, зьяўляўся адным з самых актыўных сябраў мяісцовай арганізацыі Паняволеных Народаў у Брадфардзе. Менавіта намаганьнямі спадара Янкі цягам доўгіх гадоў у Дзень Незалежнасьці 25 сакавіка лунаў бел-чырвона-белы сьцяг на галоўнай плошчы Брадфарду.

Янка Калбаса разам з Хведарам Лемяшонкам, які, на жаль, таксама ўжо пайшоў ад нас, заснаваў ў Брадфардзе беларускі грамадзкі клюб "Сакавік". Дзякуючы намаганьням у тым ліку й спадара Янкі былі ўсталяваныя памятныя табліцы ў Аўтакефальнай Беларускай царкве ў Манчэстэры і ў англіканскім саборы ў Брадфардзе.

Актыўны ўдзел прымаў Янка Калбаса і ў культурным беларускім жыцьці на чужыне. Яшчэ на самым пачатку эміграцыі, калі ў Брадфардзе працавала беларуская дзіцячая школка, ён навучаў дзяцей беларускім народным танцам і сьпевам.

Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі выказвае шчырае спачуваньне дзецям і ўнукам нябожчыка. Няхай пухам будзе яму чужая зямля і сьняцца сны пра Маці-Беларусь.

Замест кветак на магілу сьвятой памяці Янкі Калбасы ЗБВБ дало ахвяру сумай у 100 фунтаў на Дзіцячы Фонд "Сакавік" дзеля беларускіх дзяцей, што пацярпелі ад Чарнобыльскай катастрофы.

**Лілія Сазанавец**

---

База дадзеных беларускіх няўрадавых арганізацыяў замежжа зьявіцца напрацягу мая на сайце інфармацыйнага цэнтра «Беларусь аб'яднаная» (www.zbsb.org), які дзейнічае на базе МГА Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына». База ўтрымлівае вычарпальныя зьвесткі пра беларускія арганізацыі канкрэтнай краіны, беларускія навучальныя ўстановы, бібліятэкі, цэрквы, пэрыядычныя выданьні, архітэктурныя помнікі. У базе таксама пададзеныя кантактныя звесткі арганізацыяў: адрас і пажаданыя накірункі супрацоўніцтва. Мэта стварэння базы - спрыяньне кантактам паміж беларускімі няўрадавымі арганізацыямі ў Беларусі й за мяжой. У бліжэйшы час інфармацыйны цэнтар «Беларусь аб'яднаная» аб'явіць конкурс на лепшы сумесны праект няўрадавых арганізацыяў Беларусі і беларускага замежжа. Сайт утрымлівае таксама штомесячныя дайджэсты «Эканоміка», «Грамадства», «Культура», якія ў сьцісльм выглядзе паведамляюць аб галоўных падзеях у жыцьці нашай краіны. Штомесяц разьмяшчаецца выпуск «Інфармацыйнага бюлетэня» аб жыцці і дзейнасці беларускіх арганізацыяў замежжа, аб праблемах і дасягненнях беларускай дыяспары.

***BARCNEWS***

---

# Партрэт віленчука

## Да 80-годзьдзя з дня нараджэньня Лявона Луцкевіча

*Працяг са старонкі 1*

"Партрэты віленчукоў" – другая тэма, якую распрацоўваў Лявон Луцкевіч. Ініцыятарам "партрэтаў" была Людвіка Войцік (пісьменьніца Зоська Верас). Гэта яна пачала зьбіраць весткі пра беларусаў Вільні, што працавалі на культурна-грамадзкай ніве ды былі няслушна забытыя. Л. Луцкевіч апрацаваў 50 нарысаў – партрэтаў віленчукоў . Акрэсьленьне "віленчук" ён разумеў шырока – гэта былі ня толькі тыя, хто нарадзіўся й пражыў усё, ці амаль усё жыцьцё ў Вільні, як кампазітар К. Галкоўскі, драматург Ф. Аляхновіч, Мікола й Хведар Ільяшэвічы ці тыя, хто, прыехаўшы ў Вільню, засталіся тут і актыўна ўдзельнічалі ў беларускім культурна-грамадзкім жыцьці, як Зоська Верас, кс. Адам Станкевіч, Станіслаў Станкевіч ("Кнігар") ды інш., – аднак і тыя, што жылі ў Вільні адносна коратка, але менавіта тут сфармаваліся як беларусы, знайшлі свой шлях у жыцьці, як літаратуразнаўца Стась Станкевіч, паэтка Натальля Арсеньева, вучоны Барыс Кіт ды інш. "Партрэты" Лявона Луцкевіча былі кароткія (3 старонкі машынапісу), што вызначалася іхным прызначэньнем – яны перадаваліся аўтарам па радыё "Свабода". Цяпер "Партрэты віленчукоў" дапрацоўвае, дапаўняе ўспамінамі розных людзей, матар'ямі са старых беларускіх часопісаў, а часта і ўласнымі ўспамінамі жонка Лявона Луцкевіча Галіна Войцік. У выдавецтве беларусаў Літвы "Рунь" выдадзена 11 "партрэтаў": "Лявон Луцкевіч", "Зоська Верас", "Аляксандар Коўш", "Аляксандар Уласаў", "Пятро Сергіевіч",

"Канстаньцін Галкоўскі", "Янка Шутовіч", "Станіслаў Станкевіч", "Марыян Пецюкевіч", "Барыс Кіт", "Адам Станкевіч".



Ад 1944 г. была зачыненая ВБГ і хутка пасьля гэтага зьліквідаваны Беларускі Музэй ім. Івана Луцкевіча. Беларускае культурна-грамадзкае жыцьцё ў Вільні замёрла на доўгія гады. Аднак беларуская інтэлігенцыя, якая ацалела пасьля арыштаў 1939 і 1945-49 гг. ці вярнулася зь лягероў, усё-ж нешта рабіла, зьбірала матар'ялы, пісала ўспаміны, артыкулы, праўда, "у стол". І толькі ў 1988 г. узьнікла магчымасьць стварыць беларускую арганізацыю, гэта была "Сябрына" – клюб аматараў народнай творчасьці. Лявон Луцкевіч браў рупны ўдзел у стварэньні "Сябрыны", хаця й не афішаваўся, каб не пашкодзіць справе. Ён быў таксама адным зь ініцыятараў стварэньня Таварыства беларускай культуры, якое першапачакова было зарэгістраванае пры Літоўскім фонўдзе культуры. Ад 1990 г. ён быў сталым сакратаром і фактычным духоўным лідарам ТБК. У тым самым годзе ён бярэ на сябе беларускую праграму на Літоўскім радыё й быў да 1996 г. аўтарам, рэдактарам і дыктарам беларускай радыёперадачы "Беларускае слова на хвалях Літоўскага радыё". Напрацягу гэтых гадоў Лявон Луцкевіч выхаваў сабе замену – студэнтак катэдры беларусістыкі Віленскага пэдунівэрсытэту Іну Бэйнар (Аляшкевіч) і Эдыту Грынюк (Шукевіч). Лявон Луцкевіч працаваў і карэспандэнтам радыё "Свабода", перадаваў "Весткі зь Віленшчыны", "Вандроўкі па Вільні" і "Партрэты віленчукоў", браў удзел у беларускі тэлеперадачах на Літоўскім тэлебачаньні. Ён нямала зрабіў, дамагаючыся адкрыцьця катэдры беларусістыкі ў пэдунівэрсытэце й беларускай сярэдняй школы, якая сёньня носіць імя Ф. Скарыны. Лявон Луцкевіч шмат пісаў і публікаваўся ("ЛіМ", "Беларусь", "Мастацтва Беларусі", на беларускіх старонках віленскіх газэтаў "Эхо Литвы" і "Kurier Wilenski"), кансультаваў арганізатараў выставаў па беларускія тэмы ў Нацыянальнай бібліятэцы імя Мажвідаса, пазычаў экспанаты са сваіх архіваў. Ён лічыўся экспэртам у беларускіх пытаньнях і да яго зьвярталіся па кансультацыі зь Літоўскага Ўраду, Сойму, Дэпартаманту ў справах нацменшасьцяў. Да яго, як калісьці да Зоські Верас, прыяжджалі незлічоныя госьці, прыходзілі лісты з рознымі пытаньнямі й праблемамі. І ён паказваў, адказваў, пазычаў многае з сваіх архіваў. Ён быў гасьцінным і кантактным чалавекам. Хто толькі не пабываў у ягонай кватэры на вуліцы Архітэктараў у новым раёне Вільні Лаздзінай!

Лёс адлічыў яму мала часу на актыўную працу, ня даў зьдзейсьніць шмат якіх плянаў. Але апошнія 6 гадоў актыўнай дзейнасьці на ніве беларушчыны былі, мабыць, самымі шчасьлівымі гадамі ягонага жыцьця.

Лявон Луцкевіч памёр 28 ліпеня 1997 г.

На старажытных віленскіх могілках Росы , на г. зв. Літэрацкай горцы, зварочвае на сябе ўвагу помнік Івану й Антону Луцкевічам. Дзьве стэлы зь белага мармуру з барэльефамі Івана й Антона быццам падпіраюць крыж з чырвонага граніту – сымбаль мукаў і пакутаў. Тут, каля гэтага помніка, лёг на вечны адпачынак і Лявон Луцкевіч, "сын годны бацькі", як было напісана ў адным з нэкралёгаў. На гэтай самай горцы магілы Казіміра Сваяка й ягонага брата Альбіна Стэповіча – пасла ў Польскі сойм, Лявона Вітан-Дубейкаўскага – архітэктара й грамадзкага дзеяча, драматурга Францішка Аляхновіча. Зь Літарацкай горкі адкрываецца цудоўны від на Вільню, вежы касьцёлаў і цэркваў, вежу Гедыміна й лясы на небасхіле, – від на наш старажытны горад, які Лявон Луцкевіч так любіў, добра ведаў і часткай гісторыі якога ён стаў.

**Віленчанка**

---

*Міхась Міцкевіч*

### Беларуская зямліца

*Беларуская зямліца*
*Мяне ўзгадавала,*
*Маці ў мове беларускай*
*Песьні мне сьпявала...*
*Гэта мова і край родны,*
*Як жыцьцё, мне міла,*
*Не магу іх адцурацца*
*Да самай магілы.*
*Не магу іх адцурацца,*
*Як рукі, як вока,*
*Няхай слава Беларусі*
*Плыве ў сьвет шырокі.*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



*Альгірдас Эндрукайціс*

# Дэмакратыя грошай

**Абязбольваючы кампрэс. Чарадзейства паслухмянасьці. Цынізм роўнасьці. Легалізацыя знаці (арыстакратыі). Улада як тавар. Адсутнасьць дэмакратыі.**



***Палітыка – ідэя ці прафэсія?*** Нашым грамадзянам уведзена ў вушы й розум, што вынікі выбараў у Сойм ці мяйсцовыя ворганы ўлады зьяўляюцца сьвятой справай, якая не падлягае сумніву, г. зн. зьяўляецца свабодным, натуральным, законным, бяспрэчным волевыяўленьнем нацыі, каторае ў іншы спосаб не рэалізуецца. Сцьвярджаецца таксама, што гэтае волевыяўленьне трэба паважаць, прыслухоўвацца да яго, а незадаволеных неабходна супакойваць вынікамі выбараў.

У прынцыпе, так яно й мае быць, але ў палітычнай супольнасьці заўсёды маецца й падводная частка айсбэргу... Прынамсі, у Літве палітыка ператварылася у той самы гатунак заняткаў, што й вытворчасьць тавараў і гандаль. У дадзеным выпадку таварам зьяўляецца карупцыйныя й карысьлівыя дзеяньні, якія зрабіліся магчымымі, дзякуючы ўплыву, каторы абумоўлівае атрыманьне мандату й дазваляе вырашаць пытаньні ці аказваць уплыў на вырашэньне іншых людзей.

Згадваецца, як у 1990 г., напачатку дзейнасьці адроджанага Сойму, панавала палітыка, як ідэя, як мара. Сёньня ўжо відавочна, што палітыка зрабілася рамяством, дзейнасьцю, якая прыносіць даход, зьлёгку прыкрытая налётам высакароднай грамадзкай значнасьці... Вітаўтас Бруверыс сцьвярджае, што «...большасьць парлямантарыяў апошняга склІканьня прыйшлі ў палітыку з сфэры прыватнага бізнэсу». Як зазначана ў дадзеным артукуле, колькасьць патэнцыйных парушальнікаў прыватных і грамадзкіх інтарэсаў сярод чальцоў цяперашняга Сойму – больш за 60. Якую ідэю служэньня нацыі, самаахвярнасьці, падмацаваных прысягаю, могуць прапанаваць гэткія парлямантарыі? Ці не мае рацыю пісьменьнік Ёнас Мікелінскас, які сцьвярджаў, што «найважнейшая мэта дэмакратычнай дзяржавы – стварыць як мага больш спрыяльныя ўмовы сцьвердзіцца тым сваім грамадзянам, якія найбольш пранырлівыя, падступныя, прабіўныя, моцныя, ня маючыя ніякіх прынцыпаў»...

Дэмакратычныя працэдуры й прынцыпы робяцца прыкрыцьцём карысьлівых мэтаў. У гэтым сэньсе дэмакратыі ў нас няма, сфармаваная толькі працэдура выбараў, заснаваная на ўсеўладзьдзі грошай. Кажуць, што там, дзе грошы нічога ня азначаюць, там значаць вялікія грошы. Ці: калі ўкрадзеш булку, сядзеш у турму, а калі ўкрадзеш фабрыку або чыгунку, дык ці сам будзеш абраны ў Парлямант, ці пашлеш туды сваіх давераных асобаў. У гэтым сэньсе мае рацыю Дзітэр Латман: «Дэмакратыя памірае не праз кепскія законы, а праз слабых дэмакратаў».

***Няроўныя стартавыя пазыцыі.*** Было-б цяжка сёньня даказаць, што прыватазаваная й назапашаная за апошнія 10 гадоў маёмасьць ці грошы ў асобных грамадзянаў Літвы зьявіліся пры роўных умовах, пры аднолькавых абставінах, зьвязаных з падаткамі, экспартам, імпартам і г. д. Якбы там не было, аднак толькі маленькая частка насельніцтва валодае вялікімі грашыма. Штосьці ня чутна сёньня, каб багатыя людзі паводзілі сябе падобна да братоў Вілейшысаў, каторыя ахвяравалі падчас Першай сусьветнай вайны вялікія сумы грошай на разьвіцьцё незалежнай Літоўскай дзяржавы.

Перад выбарамі частка гэтых грошай перадаецца «сваім» партыям, а таксама накіраваным і дасыланым «ва ўладу» палітыкам. З гэтых грошай аплачваецца рэкляма ў друку, радыё, выступленьне патрэбных кандыдатаў па тэлебачаньні, іншая разнастайная рэкляма. За гэтыя грошы курсуюць па Літве агітацыйныя аўтобусы, грузавыя аўтамабілі, што разьмяркоўваюць харч, мэдыкамэнты, піва, арганізуюцца дарагія канцэрты папулярных выканаўцаў, функцыянуюць бясплатныя цырульні.

Мае рацыю Чэстэрфілд, калі кажа: «Кожны сход людзей – гэта натоўп, незалежна ад таго, з каго ён складаецца... Розумам натоўп не валодае, затое мае вушы, якім трэба патураць, і вочы, якім трэба спадабацца». Сэнс выніка падобных выбараў дакладна фармулюе Элвін Вэйтс: «Дэмакратыя ёсьць падозраньне, якое паўтараецца, што больш чым палова людзей больш чым палова часу нібыта мае рацыю».

***У больш багатага больш дэмакратыі.*** Звычайна падчас выбарчай кампаніі гаворыцца, што павінна праходзіць спаборніцтва й дыскусіі паміж ідэямі й праграмамі. Сяргей Скотнікаў заўважыў з гэтай нагоды: «Калі наўкол нас адныя анёлы – значыцца пачалася выбарчая кампанія». Уявім сабе сучасныя выбары ў Літве. Няхай будзе невялічкая партыя або асоба, што мае цікавыя думкі ці ідэі. Але яны, ідэі, ня могуць абмяркоўвацца, праявіцца, быць прадметам дыскусіі. Пра іх ніхто ня можа даведацца, іх ніхто ня бачыць і ня чуе, быццам іх няма зусім, – яны не ўмяшчаюцца ў кашэль літоўскай дэмакратыі.

Багатыя ўсё пазаймалі й запоўнілі сабою. Вялікая прэса й тэлебачаньне працуюць на тых, хто плаціць, дапамагаючы ім адсунуць канкурэнтаў. Калі ў спорце цяжкавагавік спаборнічае зь лёгкавагавіком – вынік вядомы загадзя. Прыхільнікаў падобнай дэмакратыі можна запытаць: ці верыце вы ў нефармальную дэмакратыю з роўнымі магчымасьцямі для вас і для вашага апанэнта? Ці не здаецца вам, што грамадзкасьці ў аднолькавай ступені неабходна даць увесь спэктар канкурэнтных ідэяў?

Няўжо колькасьць наяўных грошай ад пачатку паказваюць перавагу й праввату? Няўжо можна сцьвярджаць, што багаты мэцэнат дае грошы партыі з альтруістычных памкненьняў, а не з разьлікам атрымаць наўзамен падаткавыя льготы, пасады, доступ да фондаў, праграмаў, заказаў, узнагародаў і іншых дабротаў?

У сваёй аснове выбарчая падтрымка партыяў і асобаў, якія зьдзяйсьняюць багатыя, нясе ў сабе зло карупцыі. Зразумела, што такая палітыка можа разглядацца, як рэнтабэльны, бязпройгрышны бізнэс. Чым гэта розьніцца ад хабару, подкупу ці прадажнасьці?

Інтэнсыўная прапаганда й матар'яльная дапамога зрабілі сваю справу. Таму ў багатага мэцэната й кандыдата можна спытацца: ці не купляеш ты мандат? Зразумела, што ня кожны прадажнік, аднак часьцей за ўсё гэтага дастаткова для крытычнай перавагі. «Нахабнае крывадушша прыносіць пашану людзям, якія прывыклі падтаківаць», – адзначаў Бальзак.

***Прапанова: роўныя магчымасьці.*** Калі-б дзяржаўныя мужы былі-б ідэйнымі людзьмі, яны павінныя былі-б згадзіцца з тым, што ўсе сродкі, вылучаныя на правядзеньне выбараў, трэба было-б скласьці ў супольны кацёл. Як свае сродкі, так і сродкі, атрыманыя з боку. Аддуль усім можна было-б вылучыць суму паводле нейкай схемы, прапарцыйнай сьпісам перамогшым у аднамандатных і шматмандатных акругах...

Гэта было-б роўнае стартавае, па-сапраўднаму дэмакратычнае становішча для ўсіх ля бар'ера выбараў, а ня баль таўстасумаў, што гарцуюць на белым кані. Роўны, недэкляраваны турнір ідэяў, а ня купля галасоў за наяўныя. На выбарах 2000 г. у Сойм Літоўскай Рэспублікі сацлібэралы, напрыклад, патрацілі на перадвыбарчую кампанію 1,14 млн. літаў, а «Яўноі Летува» – 22 тыс. літаў, г. зн. У 52 разы менш. Літоўскі саюз лібэралаў патраціў на рэкляму 769 тыс. літаў, г. зн. у 49 разоў больш, чым Летувос таўцінінку саюнга. Тут, бадай, падыйшлі-б словы Гётэ: «Самае вялікае рабства – гэта, ня маючы свабоды, лічыць сябе свабодным».

Прызнаваючы і ўзаконьваючы маёмасную няроўнасьць, мы, тым самым, адмаўляемся ад спаборніцтва ў роўных умовах, зьнішчаем крытыку й меркаваньне апанэнтаў, звужаем свабоду выбару, пратэгуем клянавыя, драпежныя інтарэсы «групы таварышаў , якія не баяцца ніякіх безадказных дзеяньняў. Гэта і несправядліва, і небясьпечна: дэмакратыя свабоды нічога не значыць, калі няма дэмакратыі роўнасьці. В. Надзеждзін кажа: «Свабода – як каханьне: або яна ёсьць, або яе няма».

Магчыма, гэта й ня вырашыць усіх пытаньняў, але можа зрабіцца тэстам на дэмакратыю. Цяжка, скажам, спаборнічаць на роўных з сучаснымі 14-цю мільянэрамі – члонкамі Сойму. Трэба прадэманстраваць добрую волю, прызнаць раўнапраўе апанэнта. Інакш давядзецца згадзіцца са сцьверджаньнем, што «калі ў мяне больш грошай – значыць і праўды больш».

*Пераклад* ***Міколы Лаптэйкі***

*А. Сьвіранскі*

## Размова зь беларускім паэтам Ф. Багушэвічам

*I.*
*Раз на лаўцы я сядзеў,*
*Выпіўшы быў чарку,*
*На будынкі паглядзеў –*
*Маю-ж гаспадарку.*
*Яшчэ чарку захіліў,*
*Праўда, без закускі –*
*Раптам ўспомніў: тут-жа жыў*
*Паэт беларускі.*
*Каб паэт цяпер тут жыў-бы,*
*Дык я зь ім пагаварыў-бы,*
*За свабоду ён змагаўся –*
*I праз сто год дачакаўся!*

*II.*
*Мы часта так думалі*
*(Праўды, ня ўсе),*
*Што незалежнасьць*
*Дабро прынясе.*
*Ня мелі журботы,*
*Бязьбедна жылі,*
*Ўсе мелі работу,*
*Гарэлку пілі.*
*Людзям абрыбдлела*
*Работа-папойка,*
*Прыйшоў новы лідар,*
*За ім – "перастройка".*
*Далоў камуністаў!*
*Так жыць нам нягожа!*
*Бяры незалежнасьць,*
*Хто колькі, як можа!*
*Што гналі ў калгасы,*
*Садзілі за краты,*
*Былі камуністы,*
*Цяпер –дэмакраты.*
*Няма ў нас работы,*
*Няма ў нас і п'янкі,*
*А нашай краінай*
*Камандуюць "янкі".*
*Хоць людзі крычалі:*
*"Чужога ня трэба!"*
*Улады сьпявалі:*
*"Нам Захад дасьць хлеба!*
*Нам Вільню, Вілейку*
*Прадаць-прагуляць,*
*Тады ўжо ў калейку*
*На Захад чакаць!"*
*Пад Захада скрыпку*
*Наш лідар скакаў,*
*I шыбка, як рыбка,*
*Дзе можна хапаў.*
*Калгасьнік ў калгасе*
*Усё раскрадзе,*
*Бо ловіцца рыбка*
*У мутнай вадзе.*
*Каб нават прадаць*
*Ці каня, ці карову*
*Ты змушаны ведаць*
*Дзяржаўную мову.*
*А дзе "дзедаўшчына"*
*I старшыя б'юць,*
*Дык там і бяз мовы*
*У войска бяруць.*
*Спытайся ў любога,*
*Ці лепей нам жыць:*
*У месяц раз вып'еш –*
*Няма закусіць.*
*Такое ў нас шчасьце*
*Цяпер, у свабодных:*
*На сотню багатых –*
*Мільёны галодных...*

*III.*
*Дык цяпер, паэце, знай –*
*Дрэнна нам на тыля,*
*Яшчэ трохі пачакай,*
*Паляжы ў магіле!*

© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# Там, дзе мяне няма...

**14. Другое нараджэньне пісьменьніцы Зоські Верас. Вяртаньне палітвязьняў-віленчукоў працягваецца. Пра пані Алёну. Першыя парасткі беларускага жыцьця. Пра мастака Сергіевіча. Першы раз у Нямеччыне.**

Вясной 1961 г. да мамы прыйшоў малады асьпірант зь Менску Арсень Ліс. Ён працаваў у віленскіх бібліятэках, зьбіраючы матар'ялы для сваёй працы „Заходнебеларуская літаратура". Цераз 40 гадоў, у 2001 г., Ліс расказаў мне, што падштурхнула яго на пошукі Зоські Верас. Аказваецца, ён у дзяцінстве чытаў „Заранку" (часопіс для дзяцей, які выдавала мая маці) й яму вельмі спадабаліся „Апавяданьні цёткі пары" ды іншыя апавяданьні-пераказы з расейскай і ўкраінскай мовы, падпісаныя крыптонімам А. В. (Антон Война). Апынуўшыся ў Вільні, малады дасьледчык рашыў адшукаць Людвіку Войцік (Зоську Верас), прыйшоў да яе ў „Лясную хатку", пагаварыў зь пісьменніцай і выдаўцай „Заранкі" й наведаў яе яшчэ некалькі разоў. Пасьля, у Менску, расказаў сябрам-літаратуразнаўцам і пісьменьнікам пра цікавую жанчыну, якая працавала ў „Нашай Ніве", асабіста ведала Антона й Івана Луцкевічаў, Уласава, Ластоўскага, Ядвігіна Ш., Максіма Багдановіча, Галубка, Аркадзя Смоліча ды шмат іншых і якая захавала ў сваёй фэнамэнальнай памяці масу зьвестак пра іх і пра тагачасныя падзеі.

Пазьней Ліс расказаў, што мама яму неяк сказала: „Вы абудзілі мяне зь летаргічнага сну!" І, сапраўды, ад 1939 г. Зоська Верас фактычна займалася толькі домам, садам і агародам, нічога не пісала. Цяпер да яе пачалі прыяжджаць вучоныя й пісьменьнікі, мастакі й журналісты, студэнты й школьнікі. І кожнаму яна давала нешта новае, духоўна ўзбагачала.

Тымчасам зь лягероў вярнуліся Я. Шутовіч, А. Клімовіч, З. Каўшанка, Я. Багдановіч, А. Сакалова-Лекант. Пані Алёна — так апошнюю называлі ў ВБГ, дзе яна прапрацавала ўсе 25 гадоў — вярнулася зь лягеру хворай, дорага ёй давялося заплаціць за мэдаль, якую яна атрымала падчас сьвяткаваньня 25-гадовага юбілею гімназіі ад Цэнтральнай Беларускай Рады. Вярнулася пані Алёна ў сваю кватэру на вул. Вастрабрамскай, у дом, што прылягае да брамы Базыльянскіх муроў. Кватэру зьберагла ейная шматгадовая гаспадыня. Захаваліся й усе рэчы, адзеньне, кніжкі й пад. Пані Алёну пасьля ейнага павароту ў Вільню наведвалі Лявон і Юрка Луцкевічы, А. Шантыр, З. Каўшанка, Валя Ярэміч. Валя была дачкою пасла Фабіяна Ярэміча, яна пераехала з Варшавы, дзе працавала лекаркай, каб даглядаць свайго хворага бацьку незадоўга да ягонай сьмерці. Даглядала яна й пані Алёну.

Калі Алёна Сакалова-Лекант памерла, дык пахавіны таксама ладзіла ейная гаспадыня, а пасьля яна-ж за грошы ад прададзеных рэчаў паставіла помнік — адзіны ў той час помнік зь беларускім надпісам на Еўфрасіньнеўскіх могілках.

Тыя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі, каторыя актыўна працавалі да вайны ці падчас нямецкай акупацыі, і цяпер, па вяртаньні зь лягероў і неяк уладкаваўшы свае матар'яльныя справы, пачалі зьбіраць матар'ялы пра беларускі рух, пісалі (у стол) пра беларускіх дзеячоў Вільні, пра беларускія арганізацыі й пад. Янка Шутовіч, апошні дырэктар Беларускага Музэю ім. Івана Луцкевіча ў Вільні, зьбіраў матар'ялы пра ліквідацыю музэю, пра лёс ягоных разрабаваных фондаў. Кароткі нарыс гісторыі музэю Я. Шутовіча быў надрукаваны толькі ў 1992 г., у часопісе „Спадчына", дзякуючы Лявону Луцкевічу. Вялікі нарыс Я. Шутовіча пра славутага беларускага сьпевака Міхася Забэйды-Суміцкага друкуецца толькі цяпер у часопісе „Куфар Віленшчыны", што выдаецца ў Маладэчне. Адольф Клімовіч зьбіраў зьвесткі пра беларускіх дзеячоў Вільні, Лявон Луцкевіч — пра бацьку Антона Луцкевіча й дзядзьку Івана Луцкевіча, пра Беларускі Музэй і беларускія мясьціны ў Вільні, Янка Багдановіч пісаў свае ўспаміны.

Віленскія беларусы, а такіх сьведамых і адданых ідэям БНР ацалела ня так шмат (самі сябе яны з сумным гумарам называлі „беларускімі недабіткамі"), сустракаліся ў Зоські Верас, у Каралёў, у Луцкевічаў, у З. Каўшанкі. Гаварылі, успаміналі, пялі беларускія песьні. Часам у Вільню прыяжджаў Глеб Багдановіч, які пасьля лягеру працаваў лекарам у Рудзінску. Ён быў шчырым беларусам, у адрозьненьні ад свайго малодшага брата Аліка, каторы хоць і гаварыў на чыстай беларускай мове (якой вучыла яго пані Алёна), але меў прарасейскія настроі, што, дарэчы, ніколі не замінала апошняму сустракацца зь беларусамі-віленчукамі. У беларускі асяродак неўзабаве ўліліся Лёдзя й Косьця Шышэі, таксама прайшоўшыя праз лягер, і Мікалай Рулінскі. З Баранавічаў прыяжджаў Усевалад Кароль, лекар, брат Лявона Караля, сябра Луцкевічаў з тых часоў, калі яны працавалі ў Баранавічах.

Асаблівае становішча сярод беларусаў Вільні займаў мастак Пётра Сергіевіч. Вядомы яшчэ зь міжваеннага часу беларускі мастак, заслужаны мастак Літ. ССР, ён ахвотна прыймаў у сябе знаёмых беларусаў, паказваў свае працы, распавядаў пра свае творчыя пляны. Яшчэ ў 1957 г. ён намаляваў партрэт Антона Шантыра, партрэт вельмі ўдалы, выстаўляны на ўсіх выставах Сергіевіча, як у Вільні, так і ў Менску, пад назвай „Студэнт", — прозьвішча Шантыр лепш было не называць. Сергіевіч даволі часта наведваў Зоську Верас, маляваў там пейзажы, а пасьля й партрэт самай Зоські Верас. Яна сядзела ў фатэлі з чорным котам на каленях. Кот, відаць, уважаў, што й ён пазуе, бо як толькі прыходзіў мастак й даставаў свае фарбы й пэндзлі, зараз-жа зьяўляўся кот і ўскокваў маме на калені. Вось Сергіевіч закончыў працу й прынёс гатовы партрэт, паставіў яго на падлозе. Тут-жа зьявіўся кот, падыйшоў да партрэта, пастаяў, фыркнуў ды пайшоў прэч — партрэт яму не спадабаўся. Праўду кажучы, партрэт Зоські Верас быў няўдалы, а кот на ім такі пляскаты, проста чорная пляма. Партрэт згарэў разам зь „Лясной хаткай", застаўся адно ягоны фатаздымак у часопісе „Мастацтва Беларусі".

Шмат хто зь беларусаў-віленчукоў наведваў Сергіевічаў у ягонай кватэры на Антокалі. Бліжэй Сергіевіч сябраваў з праф. Антонам Антановічам, зь якім быў даўно знаёмы: абодва яны працавалі нейкі час у Беларускім Музэі. Сам Сергіевіч прыходзіў у госьці да нас, да Луцкевічаў, Каралёў. Ён быў сваім чалавекам у беларускім асяродзьдзі, аднак ягоная жонка пані Станіслава заўсёды дэманстратыўна гаварыла па-польску, не сказаўшы ніколі ні „дабрыдзень", ні „дзякуй".

У 1965 г. я дастала дыплём дацэнта, а ў пачатку сьнежня таго самага году ўпершыню паехала ў Нямеччыну (ГДР). Паехала нас з катэдры 6 чалавек на запросіны праф. Шмідта з Поцдамскай вышэйшай пэдагагічнай школы. Былі ў Поцдаме, дзе мне вельмі спадабаўся невялічкі палацык ў стылі рококо Sans Sona. Зразумела, там лепш бываць вясной ці летам, тады можна пабачыць ва ўсёй прыгажосьці два паркі: францускі, з падпрыгожанымі ў розныя формы жываплотамі й кустамі, статуямі й кветнікамі, і ангельскі, дзе ў траве свабодна растуць розныя раскінутыя дрэвы. Аднак і зімою было цікава: вечназялёныя рададэндроны, дрэвы, аплеценыя плюшчам...

Бэрлін нам не спадабаўся, адбудаваны з руінаў у стылі „ампір совецік", такія самыя будынкі можна было пабачыць у Менску і ў Кіеве, мёртвы горад. Калі цямнела, вуліцы гораду пусьцелі, было яшчэ шмат руінаў. Немцы казалі: „Бэрлін — гэта не Нямеччына. Трэба ехаць далей, у глыбіню краіны". І гэтае мы адчулі ў Ваймары — горадзе двух геніяльных паэтаў, Гётэ й Шылера. Дом Гётэ на Фраўэнпляне уражваў сваёй рэпрэзэнтацыйнай часткай: шэраг пакояў у амфіладзе ствараў адну вялікую залю. Кожны пакой быў свайго колеру, адзін колер пераходзіў у другі. Тут Гётэ на практыцы застасаваў сваю навуку аб фарбах (Farbenlehre). Рэстаўрацыя была зробленая на падставе запісаў Гётэ, дзе былі й пробнікі фарбаў. Пакоі аздабляі копіі антычных скульптураў, калекцыі маёлікі. Было прасторна, сьвела, неяк урачыста. Тым большы быў кантраст з жылою часткаю дому: невялікія, нізкія, цёмныя пакойчыкі, найбольшы зь якіх — бібліятэка з паліцамі, поўнымі кніжак, ад падлогі да столі, і пюпітар, — Гётэ пісаў стоючы. Спальны пакой з ложкам, на якім ён памёр, пакой ягонай жонкі Крыстыны, белыя, накрухмаленыя фіранкі, шмат зеляніны ў вазонах, нейкая пачатая работа на стале, здавалася, гаспадыня вось толькі выйшла на хвіліну. За домам — гародчык. Я пасьля неаднойчы бывала ў Ваймеры й заўсёды заходзіла ў дом Гётэ, каб пахадзіць, падыхаць атмасфэрай геніяльнага паэта.

*Працяг будзе*

**Галіна Войцік**



*Зьлева направа(сядзяць): А. Сакалова-Лекант, В. Ярэміч, А. Шантыр, Вольга Іванаўна (настаўніца); Ю. Луцкевіч (стаіць). 1959 г.*



*У "Лясной хатцы"(зьлева направа):Я. Багдановіч, З. Верас, Г. Войцік, С. Сергіевіч, П. Сергіевіч, Ліля Шышэя, Лёдзя Шышэя, Л. Луцкевіч. 1970 г.*




***Век жыві – век вучыся!** Сэмінары з такой назвай працягвае ладзіць для жыхароў Усходняй Літвы Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў "Дэмакратыя для Беларусі". На здымку - рабочы момант з сэмінару ў Салечніках.*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



## Новая хваля наркаманіі ў Барысаве

Праблема наркаманіі сярод падлеткаў і моладзі – адна з асноўных у Барысаве (Менская вобл.). Колькасьць наркаманаў, што стаяць на ўліку, складае 560 чалавек. Але, як патлумачылі супрацоўнікі гарадзкога цэнтру "Здароўе", зараз ідзе новая хваля наркаманіі й сапраўдная лічба нарказалежных большая прыкладна ў дзесяць разоў, што для горада з насельніцтвам у 175 тысяч чалавек складае каля 6 000. У Менскай вобласці Барысаў займае адно зь першых месцаў ва ўжываньні наркатычных рэчываў. Гэта звязанае з наяўнасьцю вялікага чыгуначнага вузла, своеасаблівым перакрыжаваньнем дарогаў, па якіх наркотыкі трапляюць у горад. Сваю ролю адыгрывае таксама й вялікае цыганскае паселішча ў самым горадзе: большасьць так званых «кур'ераў»-распаўсюджвальнікаў наркотыкаў пражывае ў ім. Сярэдні ўзрост барысаўскіх наркаманаў ад 15 да 23 гадоў, самаму малодшаму, што стаіць на ўліку, 11 гадоў. Увогуле па Беларусі афіцыйная колькасць асобаў, што ўжываюць наркатычныя рэчывы, складае 55 тысяч, але як і ў выпадку з колькасьцю хворых на СНІД, яе таксама трэба памнажаць на дзесяць...

**Кася Каласкова** *(BARCNEWS)*

## Мэтэарыт у Крычаве

У вёсцы Крычаў-2, Крычаўскага раёну Магілёўскай вобл. нядаўна было зафіксаванае падзеньне дастаткова буйнога метэарыта. Жалезна-каменны метэарыт, вагой у 455 грю, зьявіўся шостай знаходкай такога роду ў Беларусі. Выпадковай сьведкай прызямленьня касьмічнага «госьця» аказалася мясцовая жыхарка Прывалава, якая працавала на сваім агародзе. Сялянка пачула аглушальны сьвіст і ўбачыла яркую бліскавіцу. Напужаная жанчына непадалёк заўважыла паўмэтровую варонку, зь якой і выцягнула яшчэ гарачую касмічную знаходку.

**Андрэй Кузьмін** *(BARCNEWS)*

## Хор «Кантус» сваё адспяваў

6 мая загадам прэзыдэнта А. Г. Лукашэнкі быў ліквідаваны камэрны хор «Кантус», які дзейнічаў пры культурна-асветніцкай установе Беларускага таварыства інвалідаў зроку «Выспа». Са студзеня 2002 г. артыстам хору не выплачваўся заробак. Дагэтуль, напрацягу 14 гадоў з моманту стварэньня, калектыў быў на дзяржаўным фінансаваньні. Кіраўніцтва хору дасылала лісты на імя А. Г. Лукашэнкі й нават спрабавала патрапіць да яго на прыём. Але ў фінансаваньні хору было адмоўлена з той прычыны, што, на думку прэзыдэнта, культура павінная пераходзіць на самафінансаваньне. Зараз артысты хору, якія маюць зрок, спрабуюць шукаць працу, інваліды-ж пойдуць працаваць у адпаведныя ўстановы, дзе замест высокага музычнага мастацтва будуць вырабляць разеткі й выключальнікі. Паводле словаў аднаго з артыстаў «Кантуса», праца ў калектыве для многіх была ня толькі адзіным сродкам зарабляць досыць невялікія грошы, але й адзіным сродкам самарэалізацыі. Камэрны хор «Кантус» - адзін з трох існуючых у сьвеце падобных калектываў, у які ўваходзяць людзі са слабым зрокам. Хор быў утвораны у 1988 г. На працягу 14 гадоў «Кантус» неаднаразова станавіўся пераможцам і лаўрэатам Міжнароднага фестывалю «Магутны Божа», Сусьветнага фестывалю царкоўнай музыкі й іншых конкурсаў. На сённяшні момант хор больш вядомы за мяжой, чым у Беларусі. Неаднаразова артыстаў «Кантуса» слухалі поўныя залы Нямеччыны, Чэхіі, Францыі, Галандыі, Іспаніі, Балгарыі, краіны постсавецкай прасторы.

**Кася Каласкова** *(BARCNEWS)*

## Інваліды-калясачнікі патрабуюць нармальнага жыцця

7 мая ў Менску адбыўся пікет інвалідаў-калясачнікаў. Такім чынам яны адзначылі Міжнародны дзень салідарнасці інвалідаў, а таксама пратэставалі супраць цяперашняй сацыяльнай палітыкі беларускіх уладаў. У акцыі, якая праходзіла ў менскім парку Дружбы народаў, прынялі ўдзел каля трох дзесяткаў інвалідаў-калясачнікаў. Як распавёў старшыня менскай арганізацыі інвалідаў-калясачнікаў Валянцін Дрозд, сацыяльная адаптацыя ў грамадзтве, немагчымасць нармальна працаваць, вучыцца, адпачываць, як звычайныя людзі, маленькі памер пэнсіяў - вось асноўныя праблемы, што хвалююць зараз беларускіх інвалідаў. Існуе неабходнасць і ў стварэньні безбар'ернага асяроддзя для інвалідаў-калясачнікаў у гарадах і мястэчках Беларусі. Дзяржава спрабуе вырашаць дадзенае пытаньне, абавязаўшы будаўнічыя фірмы рабіць пандусы для інвалідаў у новых будынках. Аднак, па словах сп. Дразда, робіцца гэта бяздарна, бо «яны не сядзяць у калясках, ня ведаюць, якой вышыні зрабіць пандус, барныя стойкі, дзьверы ў прыбіральні, каб інвалідам было зручна. Дый тое, спрабуюць нешта рабіць толькі ў Менску, а ў рэгіёнах нічога не вырашаецца». Існуе неабходнасць і ў стварэньні базы дадзеных па інвалідах-калясачніках, бо нават у самай масавай арганізацыі - Рэспубліканскай асацыяцыі інвалідаў-калясачнікаў, што налічвае блізу 1,5 тысячы сябраў, ня могуць назваць дакладную іх колькасьць па ўсёй краіне. На дадзены момант гаворка можа йсьці прыкладна аб 10-15 тысячах інвалідаў-калясачнікаў у Беларусі.

**Віталь Алісіёнак** *(BARCNEWS)*

## Статыстыка:

За студзень-люты ў Слаўгарадскім раёне нарадзілася 21 дзіця, што на 30% менш, чым летась. Памёрла 58 чалавек, з якіх 17,2% працаздольнага ўзросту. За ўказаны пэрыяд раён пакінула 49 чалавек, прыбыла 39. У Касцюковіцкім раёне за гэты час нарадзілася 37 дзяцей, або на 27,5% менш, чым у адпаведны перыяд мінулага года. Памерла 108 чалавек, з іх 27 – у працаздольным узросце. У раён прыбыла 10 чалавек, выбыла – 79.

**«Голас Касцюкоўшчыны»**

Паводле аддзела ЗАГС у Горацкім раёне за 2001 год зарэгістравана 317 шлюбаў, у тым ліку 89 – у сельскай мясцовасці. Нарадзілася 394 дзіцяці ( 139 з іх на вёсцы), а памерла 718 чалавек, зь іх у сельскай мясцовасці – 458. Сёлета, за чатыры месяцы, зарэгістравана 86 шлюбаў, 154 немаўлятаў і 286 памёрлых.

**Віктар Качан**
*BARCNEWS*

У Бабруйску пражывае 221,7 тысячы чалавек. Гэта на 300 болей, чым у адпаведны пэрыяд па-за летась. Рост насельніцтва адбыўся празь міграцыю. Летась, у параўнанні з 2000 г. памерла на 97 чалавек болей, а нарадзілася больш толькі на 5 немаўлят. Каб хапіла месца для ўсіх памерлых на вуліцы Савецкай будуць адкрыты новыя могілкі. Будаўнічыя работы распачнуцца ўжо сёлета.

**«Бабруйскае жыццё»**

У Краснапольскім раёне на 1 мая бягучага года налічваецца 4431 чалавек, які атрымлівае пэнсіі й дапамогі, 4178 зь іх – пэнсіянеры. Сярэдні памер пэнсіі складае 72 434 рублі.

***BARCNEWS***

У Чавусах за студзень-люты ў раёне нарадзіліся 37 дзяцей, памёр 131 чалавек. За гэты самы пэрыяд зарэгістравана 20 шлюбаў і 18 разводаў, у раён прыбыло 85 і выбыла 114 чалавек.

**"Святло Кастрычніка"**

## Заробак прадуктамі

Вяскоўцаў у Бялыніцкім раёне пазбаўляюць права распараджацца ўласным заробкам. Першымі ахвярамі сталі калгаснікі, якія за сваю працу атрымліваюць не грошы, а прадукты харчаваньня, што выдаюцца па сьпісу ў вызначаных крамах. Стала вядома, што аналагічны сюрпрыз падрыхтаваны для здатчыкаў малака. Запазычанасць за прададзенае малако цягам сакавіка – красавіка выдадуць грашыма. А пачынаючы з траўня разлік будзе весьціся праз тыя ж крамы таварамі і прадуктамі харчаваньня. Рэакцыя малаказдатчыкаў на гэтае новаўвядзеньне мясцовай улады пакуль невядомая.

**Базыль Ліцьвіновіч**

## Камуністы пікетуюць

3 траўня асіповіцкія камуністы ладзілі пікет супраць ратыфікацыі пагадненьня паміж Урадам РБ і Ўрадам ФРГ аб даглядзе за ваеннымі могілкамі. Як патлумачылі самі камуністы: "Пагадненьне прадугледжвае, што Беларускі Ўрад прадастаўць Нямеччыне бясплатна й на неабмежаваны тэрмін участкі зямлі, якія выкарыстоўваюцца для ваенных пахаваньняў". Мясцовыя ўлады дазволілі правесці пікет толькі на стадыёне "Алімпіец", бо гэтае месца, з словаў загадчыка аддзела інфармацыі В. Чупахіна, спэцыяльна прызначанае для такога кшталту мерапрыемстваў. Аднак камуністы пачалі свой рух з плякатамі "Нет –ратификации позорного соглашения!», «Нет мемориалам фашистским палачам!» і лёзунгамі з цэнтральнай плошчы горада, а потым рушылі па цэнтральнай вуліцы каля 2 км. да стадыёна "Алімпіец". Больш за тое, паводле рашэньня мясцовых уладаў ёсьць пэўныя рахункі, якія арганізатары пікета павінныя аплаціць. Гэта аплата міліцэйскай аховы, карэты хуткай дапамогі, дворніка, арэнды месца. Аднак В. Чупахін паведаміў, што ні адзін рахунак не быў аплочаны, аднак мерапрыемства не было забароненае. Камуністы парушылі парадак правядзеньня пікетаў, зладзілі несанкцыянаванае шэсце, аднак ім гэта сышло з рук. Як патлумачылі самі камуністы: "Мы не платили хотя бы потому, что мы не имеем ничего на счету, мы живём за собственные взносы. И ещё потому, что в рядах определённых наших органов ещё остались наши советские люди».

**Рыгор Латышэвіч**

## Акцыя ў Бабруйску

14 траўня, на Радаўніцу, гарадскія арганізацыі АГП і БНФ правялі акцыю "Ланцуг неабыякавых людзей", прысьвечану зьнікненню вядомых на Беларусі палітыкаў: Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага і памяці Генадзя Карпенкі. Цягам гадзіны актывісты бабруйскіх палітычных партый прыцягвалі ўвагу наведвальнікаў Мінскіх могілак стоячы з запаленымі свечкамі і партрэтамі.

***BARCNEWS***

**Меркаваньні рэдакцыі не заўсёды супадаюць з пазыцыяй аўтараў**

## У выдавецтве "Рунь" выйшлі кнігі:

**Юрыя Весялкоўскага "Па сьлядох Другой сусьветнай вайны"**. У анатацыі да кнігі сказана: "У сваю новую кнігу беларускі публіцыст і гісторык з Англіі Юры Весялкоўскі ўключыў артыкулы пра Другую сусьветную вайну. Аднак, хаця іхны аўтар быў непасрэдным сьведкам і ўдзельнікам самай жахлівай ў гісторыі чалавецтва сусьветнай бойні, кніга, за рэдкім выняткам, не зьяўляецца аўтабіяграфічнай. Гэта, хутчэй, ёсьць спроба далёка не безстароннага чалавека, лёс якога апяклі й крута зьмянілі гады ваеннага ліхалецьця, – разабрацца ў далёкіх ужо ад нас трагічных падзеях, асэнсаваць тое, што адбылося зь ім і зь ягоным пакаленьнем. Кніга цікавая яшчэ й тым, што яна паўстала пераважна на літаратуры пра Другую сусьветную вайну заходніх аўтараў. Шмат што ў кнізе зьявіцца новым і здасца нязвыклым для тых, хто ведае вайну па савецкіх кнігах і фільмах". Кніга ілюстраваная рэдкімі фатаздымкамі й плякатамі часоў апошняй вайны.







**Галіны Войцік і Лявона Луцкевіча «Адам Станкевіч»**. Кс. Адам Станкевіч (1892 – 1949) адна з самых яскравых постацяў беларускага адраджэнскага руху ў Заходняй Беларусі першай паловы XX ст. За беларускую мову ў сьвятынях ксёндз Адам змагаўся да апошняга дня свайго жыцьця... Публікатка выдадзеная сродкамі ягонага зямляка, чальца Сойму Літоўскай Рэспублікі Вацлава Станкевіча.

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# Беларускі Студэнцкі Саюз у Вільні



*Сябры БСС у Вільні (зьлева направа). I рад (сядзяць на падлозе): Аляксандар Засім, Анастазія Дубовік, Мікалай Шчорс; II рад (сядзяць на лаве): Вітаўт Тумаш, Валя Жукоўская, Адась Дасюкевіч, Таня Трафімучанка, праф. Эрвін Кошмідэр, Анэля Катхавічанка, Кастусь Шэшка, Зіна Еўтухоўская; III рад: Вацлаў Пануцэвіч, невядомы, Дуня Казьлянка, Анатоль Бразоўскі, Жэня Волас, Усевалад Кароль, Ганна Першукевіч, Чэсь Найдзюк, Раіса Жукоўская (Жук-Грышкевіч), Ніна Ляўковіч, Міхась Мядоўскі, Ванда Чарнэцкая, Антон Шукелойць (трохі вышэй), Усевалад Панько; IV рад: Казімір Чартовіч, Н. Марцінчык, В. Люсьцібэр, Марыся Труцька, Говар, Ксеня Грыгарчук, Галена Аніська, Вінцук Склубоўскі, Ганна Сухая, Ян Ярошка, Вэраніка Каткавічанка, невядомы, Віктар Ярмалковіч. Вільня, акадэмічны год 1938-1939.*

### Уводзіны

Сябрамі Беларускага Студэнцкага Саюзу (БСС) у Вільні былі студэнты Віленскага Ўнівэрсытэту Сьцяпана Батуры. Я мела гонар быць сяброўкаю БСС толькі адзін 1938-39 акадэмічны, апошні, год. Не пасьпела, так сказаць, укараніцца ў сутнасьць Беларускага Студэнцкага Саюзу. Пішу тут пра свае сьціплыя ўспаміны й пра тое, што чула з расказаў, перадусім мае сястры Валянціны Жукоўскае-Пашкевіч...

У тыя часы Ўнівэрсытэт Сьцяпана Батуры ў Вільні тварыў самастойную праўную адзінку... Унівэрсытэт меў свой сэнат, і паліцыя ня мела права ўвайсьці на ягоную тэрыторыю. Пры ўнівэрсытэце былі розныя, розных нацыянальнасьцяў, студэнцкія саюзы й карпарацыі. Кожная студэнцкая арганізацыя мела назначанага ўнівэрсытэтам апекуна. Апекуном (дый , відаць, адказнам за паводзіны) Беларускага Студэнцкага Саюзу быў прафэсар славістыкі Кошмідэр. Ён быў прыхільны да нас, беларусаў. Пасьля, у другой палове 50-х гг., у Мюнхэне, дзе ў той час дзейнічала беларускае радыё "Вызваленьне", выходзіла пад рэдактарствам былога сябры БСС д-ра Станіслава Станкевіча газэта "Бацькаўшчына", – на акадэміі сьвяткаваньня ўгодкаў Акту 25 Сакавіка прысутнічаў і праф. Кошмідэр.

### Адрас Беларускага Стдэнцкага Саюзу ў Вільні

Гаспода БСС месьцілася на Завальнай 1-2, у рэдакцыі газэты "Крыніца", выдаванай хадэкамі – хрысьціянскімі дэмакратамі, каталікамі – і яны адступілі для карыстаньня беларускім студэнтам адзін пакой. Каля сьценаў гэтага пакою былі зложаныя стосы паперы, газэтаў, як у друкарні. Было там і прасторна, на фроньце гасподы стаяў вялікі "дэск" – стол, на сьцяне над ім Крыж і Пагоня, былі партрэты, не памятаю чые. На Завальнай 1-2, калі хтось зь ведамых беларусаў прыяжджаў у Вільню, мог і затрымацца на некалькі дзён (але не ў пакоі БСС, там быў іншы пакой, у якім мне давялося бачыць мастака Язэпа Драздовіча). А што адрас БСС быў Завальная 1-2, доказам ёсьць паэма, пісаная паэтамі – сябрамі Беларускага Студэнцкага Саюзу. Пачынаецца яна так:

*У Саюзе на Завальнай*
*Назавем паэму гэту,*
*Старшыня ў шахматы грае,*
*Скарбнік дай, крычыць, манэту...*

Старшыня, хадэк Адась Дасюкевіч, любіў гуляць у шахматы, і не аднаго разу калегі бачылі яго пры гэтым занятку. У часе нямецкай акупацыі Адам быў расстраляны немцамі. Скарбнік Валянціна Жукоўская, цяпер Пашкевіч, паважна трактавала сваю функцыю, глядзела, каб скарб БСС не пуставаў, пасьля ў Канадзе зладжыла два тамы ангельска-беларускага падручніка "Беларуская мова" ("Fundamental Byelorussian"), апрацавала ангельска-беларускі слоўнік, які захрас у выдавецтве...

Далей паэма расказвае:

*Каталік із праваслаўным,*
*Наш Вацлаў зь Мікалаём,*
*Адзін Ірачку займае,*
*Другі сам ходзіць арлом.*
*Ў ім кахаюцца дзяўчаты,*
*Безнадзейна сэрцы б'юць,*
*І, нічога не дастаўшы,*
*З жалем к іншаму пайдуць.*

"Каталік" Вацлаў Пануцэвіч "займае" Ірачку Будзьчанку, пасьля Вацлаў і Ірэна пажаніліся. "Праваслаўны" Мікалай Шчорс, у якім "кахаюцца дзяўчаты", самы быў закаханы ў Анэльку Катхавічанку, аднак яна выйшла за іншага, а др. Мікола Шчорс, у эміграцыі, ажаніўся з мэдычнай сястрою, немкаю. Ужо памёр.

У БСС адбылося й вясельле. Студэнт мэдыцыны Віктар Войтанка ажаніўся з таксама сяброўкаю Саюзу Марылькай. Вясельле іхнае было сьціплым-студэнцкім, безь вясельных шыканаў. Марылька была ў сукеначцы, у якой хадзіла на выклады, Сябры БСС зладзілі ім сьціплую вясельную застольную бяседу. Жыцьцё Войтанкаў скончылася ў ЗША. Калі Марылька памерла, ужо пасьля сьмерці Віктара, труну ейную несьлі, як анёлчыкі, апранутыя ў белае адзеньне, іхныя ўнукі. З былою сяброўкаю БСС Ксеняй Грыгарчук ажаніўся др. Віктар Тумаш, наш слаўны скарыназнаўца, пазьнейшы старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку.

### Сяброўска-сямейная атмасфэра

Сябры БСС у Вільні, хоць былі разнаякія: палешукі, навагарадчане, віленчукі, праваслаўныя, каталікі, бязбожнікі, "правыя", "левыя", "хадэкі", – тварылі адну вялікую, дружную сям'ю. Гэта моцна праяўлялася. Падчас вечароў у Саюзе на Завальнай было поўна калегаў і калежанак (словы лацінскага паходжаньня), часам трапіш і на танцы. Маладым людзям шмат ня трэба было, каб завесьці патэфон і пайсьці ў танцы. Часам натрапіш на практыкаваньне студэнскага хору пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы. Тады яго "дзядзькам" не называлі. У Саюзе на Завальнай адбываліся на розныя тэмы даклады, дыскусійныя вечары. Прыкладам, на адным зь іх дыскутавалі два апанэнты "advocatus ei" і "advocatus diaboli". Сьвяткаваліся нацыянальныя сьвяты.

А ў цёплыя восеньскія ці вясновыя нядзелі беларускія студэнты вялікай дружнай грамадою езьдзілі на выцечкі ў Вэркі, Трокі, хадзілі на Трохкрыжскую гару. Там нам здарылася сустрэцца з групай студэнтаў-летувісаў. Зь імі, жартуючы, размаўляліся. Студэнт мэдыцыны Вітаўт Тумаш задэманстраваў летувісам веду летувіскай мовы, яны – беларускай. У нашую вясёлую гутарку галасіста ўблытаўся разьлівісты сьпеў салавейкі. "Во, як прыгожа пяе беларускі салавей!" – сказаў нехта з нас. "Ды не, гэта – летувіскі!" –запярэчылі летувіскія суразмоўнікі. Спрэчка, летувіскі ці беларускі быў той салавей, аканчальна так і ня вырашылася. Тады мы ня ведалі, што з намі быў там дух Кастуся Каліноўскага, замардаванага вешальнікам-Мураўёвым, прах якога на Трохкрыжскай гары спачывае...

### Палітычныя напрамкі

Калі мы ўжо ўспомнілі пра разнаякасьць сяброў Саюзу, дык "палітычныя" іхныя розьніцы выяўляліся перадусім і, мусіць, толькі на агульных гадавых сходах БСС, бо кожная групоўка хацела прапхнуць ва Ўправу БСС, асабліва на старшыню, свайго прадстаўніка. І гэтак напрацягу некалькіх кадэнцыяў, да майго прыезду ў Вільню, старшынём БСС быў студэнт мэдыцыны Мікола Шчорс, "правы", праваслаўны. Пасьля яго, за маіх часоў, старшынём быў "хадэк" Адам Дасюкевіч, яго называлі Адась Дасюкевіч. Але якога-б напрамку яны не трымаліся, яны перадусім былі беларускімі патрыётамі, інакш-бы не былі сябрамі БСС. У Вільні дзейнічалі таксама польскія, украінскія, летувіскія ды іншыя студэнцкія саюзы. Пра "левых" трэба абавязкова сказаць, што пасьля прыходу бальшавікоў у 1939 г. усе яны хутка сталіся "правымі".

### Літаратурны вечар і забава ў летувіскім Саюзе

Максім Танк, а фактычна сінявокі, чупрынясты Жэнька Скурка, фармальна ня быў студэнтам Унівэрсытэту Сьцяпана Батуры, але быў ён неадемнай ягонаю часткаю. Вось недзе ў мурох унівэрсытэту быў беларускі літаратурны вечар. Максім Танк раскошна дэклямаваў уступ да свайго зборніка вершаў:

*Уракл, матуля, сына твайго людзі,*
*Уракл загоны і палі,*
*Як у шоўк вясновы прыбіралі грудзі*
*Шэрыя бярозы, тапалі.*
*Уракл і вочы сінія краіны...*

Уракл... І Жэнька-Танк стаўся паэтам і:

*Сёньня не памогуць лекі ад урокаў,*
*Ні твае малітвы да зары...*

На жаль, словы твору выпалі з памяці, але ён надзвычайны, як і надзвычайнай была дэклямацыя яго самым аўтарам. Пасьля літаратурнага вечара зьявіліся (а мо яны й былі на гэтым вечары) калегі зь Летувіскага Студэнцкага Саюзу й забралі нас усіх да сябе на вечарынку, дзе мы добра й загулялі. Танцавала з харошым летувіскім студэнтам, які, як пераставала граць аркестра, крычэў: "Мажа!" Дарэчы, летувісы, як і беларусы, гасьцінныя, прыемныя людзі.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

*Працяг будзе*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



### Алег Аблажэй

# Дзядзя, купі квадрат...

Нядаўна ў колах аматараў мастацтва громам пранеслася вестка – у Маскве адбыўся аўкцыён, на якім сярод іншых прадаваліся творы Казіміра Малевіча, у тым ліку славуты "Чорны квадрат". Гаспадаром калекцыі быў расейскі "Інкамбанк", што надоечы з трэскам збанкрутаваў. Даволі хутка, за 600 тыс. дал. быў прададзены "Аўтапартрэт" Малевіча. "Квадрат"-жа ніяк не прадаваўся, але, у рэшце рэшт, яго за 1 млн. дал. выкупіў нейкі "новы рускі" – для Эрмітажу...

Асоба нашага знакамітага земляка апошнім часам вырасла да "калёсальных" памераў. Да прыкладу, у выдадзенай ангельцамі кнізе "500 шэдэўраў сусьветнага мастацтва" з усіх мастакоў, каторыя насялялі абшары Расейскай імпэрыі, а потым СССР, гонару быць там прадстаўленымі удастоіліся толькі Малевіч ды Каньдзінскі – таксама "ягадка" з таго самага поля, поля "авангарду".

"Чорны квадрат" ёсьць адно з самых славутых карцінаў сьвету, твор, які сваёй вядомасьцю, бадай, не саступае "Джаконьдзе", што ўсьміхаецца нам ня толькі ў Луўры, але й з кожнай рэклямы – ад цыгарэтнай да гігеенічных пракладак. Як цяпер высьветлілася, што хітры спадар Казік згарбузаваў ажно пяць (!) "чорных квадратаў" (дарэчы, ягоны "белы квадрат на белым фоне", г. зв. незамаляванае палатно, ня мае такой папулярнасьці). Менавіта "пяты" й прадаваўся ў Маскве.

У перадачы "Галерэя "Свабоды" ейны аўтар Сяргей Харэўскі дужа перажываў, што Беларусь ня мае ніводнага твора свайго суродзіча... "Беларускасьць" спадара ці, дакладней таварыша (або камісара) Малевіча вядучы абгрунтаваў тым, што, па-першае, мастак нарадзіўся пад Менскам, па-другое, "да канца жыцьця меў непаўторны беларускі акцэнт". (Мабыць, "разгаварывал", як адзін наш, ня менш знакаміты, сучасьнік – адгадайце хто). Палякі-ж усюды пішуць, як з гневам зазначыў вядучы "Галерэі", пра "польскае паходжаньне Малевіча". Ну, а расейцы, вядома, лічаць яго сваім.

У чым-жа сакрэт такой вядомасьці й такіх коштаў – неверагодных – бо нават другі ўдзельнік той самай перадачы, "беларускі літаратар і калекцыянэр Міраслаў Шайбак", сказаў (дарэчы, зь непаўторным рускім акцэнтам): "Шэсьцьсот тысяч далярав? Ня верю!"

Як там ні было, але гэтыя "халсты", як выказаўся той самы "беларускі літаратар", сапраўды каштуюць шалёныя грошы.

Калісь была папулярная гэткая "хохма". Ідзе, скажам, дзядзька вечарам празь цёмны парк, нечакана выходзяць з-за кустоў мажныя маладзёны й ветліва так прапануюць: "Дзядзя, купі цэглу!" І "дзядзя" выграбае з кашалька ўсю наяўнасьць і паслухмяна купляе прапанаваны хлопцамі "тавар". "Чорны квадрат" ніхто нікога не прымушаў купляць. Наадварот, яго мараць мець у сваіх зборах найлепшыя музэі сьвету – хоць сапраўдная ягоная вартасьць няшмат большая за вартасьць згаданай цэглы. Якжа растлумачыць гэты парадокс?

"Чорны квадрат" – гэта адначасова квінтэсэнцыя й крэатура тэзы, народжанай XX стагодзьдзем: "Рэкляма можа ўсё!" Аб'ект ня мае значэньня, важна "раскрутка". Важна ня што й як намаляванае ці зробленае, але кім.

Другі ня менш славуты мастак-"авангардыст" Энцьзі Уорхал выставіў звычайную бляшанку кансэрванага супу, як твор мастацтва, – і гэтая бляшанка цяпер каштуе таксама не адну сотню тысячаў "зялёных". Ды што там творы мастацтва: якія-небудзь трусікі Мэрэлін Манро дасягаюць на аўкцыёнах астранамічных коштаў.

Жыцьцё – гульня, і гісторыя "авангарднага" мастацтва красамоўна пра гэтае сьведчыць. З аднаго боку, гэта выбух, протуберанец дзікунства й глупства, зь іншага боку, цьвярозы разьлік, маніпуляцыя велізарнымі капіталамі, добра адладжаная машына, якая прыносіць тым, хто ёю кіруе, велізарныя даходы. Гандаль мастацтвам, арт-бізнэс, кіруецца тымі самымі законамі, што й гандаль калготкамі ці зубной пастаю: стварыў тавар – уклаў сродкі ў рэкляму – раскруціў – выгадна прадаў. І тут самае найбольшае няшчасьце для мастака – гэта ня быць пазбаўленым таленту, а быць пазбаўленым, абдзеленым увагаю крытыкі. "Калі цябе няма ў нашым каталёгу, цябе няма зусім" – гэта рэкляма даведніка фірмаў, але яна пасуе й да мастацтва.

Казімір Малевіч – такая самая штучна раздзьмутая й "раскручаная" "зорка", як і "зоркі" шоў-бізнэсу, накшталт Мадоны ці Брытні Сьпірс. Вырашае не памер кога: у пакой, дзе на стале ляжыць цёмны шарф, заводзяць групу людзей. Усе, апрача аднаго, папярэджаныя гаварыць, што шар белы. І вось той, адзіны, працірае вочы, вагаецца, але таксама кажа, што шар белы...



*К. Малевіч.* ***Белы квадрат на белым фоне.***

таленту, а легенда, слава. А славе Малевіча ды іншых "авангардыстаў" з былога СССР нямала спрыяў іхны "цярновы вянец", перасьледаваньні, забароны. Між тым, разыходжаньні камісара Малевіча з камісарамі з Крамля пачаліся тады, калі апошнія ўсьвядомілі, што з дапамогаю квадратаў, кругоў і трохкутнікаў немагчыма ўбіваць у галовы малапісьменных пралетарыяў "самае перадавое вучэньньне" – тут былі патрэбныя больш зразумелыя "карцінкі".

А, наогул, камічна выглядаюць спробы зрабіць беларускага нацыянальнага героя з асобы, якая аддана вітала бальшавіцкую рэвалюцыю, з задавальненьнем "камісарыла", а з усяго беларускага толькі й мела той "акцэнт" – непажаданы й міжвольны. У выпадку Малевіча ўражвае ня веліч ягонага "шэдэўру", а моц, прыгнятальная, ўсемагутнасьць унушэньня, псыхозу. Вядомыя псыхалягічныя экспэрымэнты, накшталт та...

Людзі нашага пакаленьня былі сьведкамі куды больш магутнай "раскруткі" "самага перадавога вучэньня ў сьвеце". Сёньня тым, хто зусім малады, і ўявіць немагчыма той гіганцкі прэсінг, усеабдымны ідэалягічны тэрор, ды што там – веру! І якія людзі былі прыхільнікамі: Бэрнард Шоў, Рамэн Ралан, Нават Сартр... Што цяпер засталося ад марксізму-ленінізму?

У асобаў тыпу Малевіча няма аніякіх шанцаў захаваць сваё ранейшае мейсца ў новым стагодзьдзі. Вечных камісараў не бывае – што ўжо казаць пра такую маркоту, як віцебскі камісар: у свойчас былі забытыя такія велічыні, як Бах, Рэмбрандт... Проста XXI ст. яшчэ не праявіла сябе як сьлед, усё яшчэ перажоўвае старую спадчыну. Але, калі ўважліва ўгледзецца – і гэтая тэма для асобнага артыкулу – прыярытэты, каштоўнасьці, асабліва ў мастацтве, паволі, але няўхільна зьмяняюцца. Не купляйце, дзядзі, "чорныя квадраты" – збанкрутуеце!

# Багушэвіч і Літва

„Цікава, а ці ведаў Францішак Багушэвіч літоўскую мову? Ці цікавіўся ёй? І, наогул, як адносіўся да літоўцаў", — з такім пытаньнем зьвярнуўся да мяне аднойчы малады літоўскі настаўнік Ёзас Рыбікаўскас. І, сапраўды, Францішак Багушэвіч пражыў у Вільні амаль палову свайго жыцьця — 10 гімназічных гадоў (1851 - 1861) і 14 гадоў адвакацкіх (1884 - 1898). Але-ж Вільня тады не лічылася літоўскім горадам. Яна была нейкім прамежкавым местам, дзе ў адной суполцы жылі палякі, жыды, беларусы, рускія, літоўцы татары ды інш. Жыць дык жылі, аднак грамадскае ды культурнае рэчышча пераважна разьвівалася ў расейскім казённым кірунку. Моцныя ўплывы былі польскія. А якжа было зь літоўскім насельніцтвам? Ці жылі літоўцы ў Вільні і ў ейным навакольлі? Якая была іхная вага ў грамадзкім жыцьці Вільні, краю? Ці выдаваліся ў Вільні ў Багушэвічаву пару газэты й часопісы на літоўскай мове?

На ўсе гэтыя пытаньні маем адзін адказ. Доля літоўскай культуры ў Вільні ў канцы XIX ст. была вельмі нязначная, калі не сказаць — мізэрная. Вільня не магла даць Багушэвічу поўнага ўяўленьня пра жмудзінаў-літоўцаў. Не магла даць гэтага ўяўленьня й Віленшчына, бо тут пераважала беларускае насельніцтва. Але вандроўкі ды службовыя дарогі вадзілі Багушэвіча па ўсёй сучаснай Літве. З розных клопатаў наш пясьняр наведваў Коўну, Кярноў, Шырвінты, Антаношу, Крожы. Часта любіў бываць у наваколлі Вэрак, Трокаў. Аднак якіхсьці канкрэтных сьвестак пра размовы, сустрэчы зь літоўскімі сялянамі да нас не дайшло. Ня маем мы зьвестак і пра ягоную повязь і зь дзеячамі літоўскай культуры. Але й сказаць, што Францішак Багушэвіч быў абыякавым да жыцьця літоўскага народу, ня можам.

Каб гаворка далей ішла больш акрэсьленая, зазначым, што Ф. Багушэвіч пад тэрмінам „Літва" разумеў зусім ня тое, што мы разумеем сёньня. Для яго, як і для ўсіх ягоных сучасьнікаў, Літвой найперш была Віленшчына, Віленскі край. Адвечна літоўскімі пушчамі Францішак Багушэвіч называе й жупранскія лясы. Тэрміны „Літва", „літоўскі" досыць часта фігуруюць у Багушэвічавай публіцыстыкі, мэмуарыстыкі. Вось некаторыя выняткі з Багушэвічавых допісаў: „Сельская Літва згортвае сваю гаспадарку", „Няхай глядзіць і дзівуецца Літва!", „у нашым літоўскім грамадзтве". Згадвае Францішак Багушэвіч і „літоўскі" сыр, які 25 гадоў назад пачалі вырабляць у Гарадзеі (пад Нясьвіжам).

А вось і трошкі іншыя Багушэвічавы азначэньні: „Коні кн. Агіньскіх жмудзкай пароды". Ці яшчэ: „16 (28) верасьня пасьлаў жмудзкі слоўнік". (Зь ліста Ф. Багушэвіча да ягонага варшаўскага прыяцеля Яна Карловіча за 16 верасьня 1888 г.). Гэта ўжо зусім цікава. Значыцца, для Багушэвіча Літва й Жмудзь былі паняцьці процілеглыя, розныя, хоць і суседнія. Зусім іншая рэч Беларусь (Белая Русь). Яна, паводле словаў Ф. Багушэвіча, „пасьля таго як сваёй воляй зь Літвой, а ня з Жмудзьдзю, паяднадася, была ў Вялікім княстве Літоўскім, як зярно ў гарэху".

Суседні з намі — жмудзкі (летувіскі) народ — перажыў за Расейскай імпэрыяй усе тыя самыя паняверкі, што й беларускі. Жмудзінам, гэтаксама, як і беларусамліцьвінам, забаранялі разьвіваць сваю культуру на роднай мове, жыць незалежным самабытным жыцьцём. І гэтае нас яднала, выклікала ў нашага песьняра-адваката цікавасьць да лёсу суседняга народу, ягонай культуры. Згадаем той самы „жмудзкі слоўнік", які паслаў Багушэвіч Яну Карловічу. Думаецца, перад тым, як пасылаць яго, уладкаваць у пакунак, Францішак Багушэвіч добра гэты слоўнік паштудываваў. Яму было цікава паглядзець, як зрабілі свой слоўнік нашыя суседзі. Ці няма ў ім чаго агульнага для нашых моваў? Ці не прыдасца яму якаясь практыка ўкладаньня гэтага слоўніка? Багушэвіч якраз гатай пару ствараў свой слоўнік — беларускі.

Францішак Багушэвіч, безумоўна, ня толькі цікавіўся гісторыяй жмудзкага народу, але й спагадаў яму. Гэта ягоным пяром, мяркуюць, напісалася адозва „Гаспадары, для вас пішам гэтае апавяданьне" — пра сялянскі бунт у літоўскім мястэчку Крожы Расінянскага павету ў 1894 г.

Ну, але гэта ўсё пра Багушэвічаву цікавасьць да Літвы й Жмудзі. А ці была яна да паэта з жмудзьскага боку? Так, была! Ёсьць зьвесткі, што жмудзкія асьветнікі мелі цікавасьць да Багушэвічавай постаці, ягонай творчасьці. У кастрычніку 1895 г. у Шаўлях (Шаўляй) быў арыштаваны калежскі сакратар Яэпас Міляўскасі, ён-жа згодна расейскіх афіцыйных дакумантаў, Іосіф Фердынандавіч Мілеўскі. Сярод розных папераў на жмудзкай і польскай мовах быў знойдзены рукапісны сшытак „Smyka biaiaruskaha". Факт гэты вельмі паказальны, шматзначны.

Падсумоўваючы гэтыя нататкі, хочацца яшчэ раз нагадаць, што Францішак Багушэвіч часта згадваючы ў сваіх допісах назоў Літва, называе яго, як і Адам Міцкевіч, сваім, родным, пачувае сябе неадлучным ад гэтага краю. Так, Літва — Віленшчына — гэта радзіма беларускага песьняра. У такім кантэксьце мы й павінны ўспрымаць гістарычны назоў Літва ў Багушэвічавых допісах і зацемках. І не інакш!

**Уладзімір Содаль**

© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# Друскенікі – другі бок мэдалю

*Працяг са старонкі 1*

Штопраўды, у шапіках прадаюцца польскія газэты й часопісы, добра ловяцца польскія тэлеперадачы (таксама й беларуская).

Пра беларускае жыцьцё ў мястэчку (пашпартных беларусаў налічваецца тут каля 300) распавёў мне Іван Ломаць, былы доктар, выдатны суразмоўца, разумны й душэўны чалавек. Ён расказаў, як ідуць справы ў дзяцей, каторыя адпачываюць і адначасна вучацца ў санаторыі “Беларусь”, пазнаёміў са школьным музэем, распавёў пра лёсы беларусаў, каторыя жывуць і працуюць у мястэчку, шмат чаго распавёў з гістарычнага мінулага Друскенікаў.

Друскенікі быў улюбёным горадам мастакоў, фатографаў, паэтаў, пісьменьнікаў, нават палітыкаў. У 1844-46 гг. тут выходзіў літаратурна-гістарычны й мэдычны месячнік “Ондына Друскенінскіх жрудзел”, які выдаваў К. Вольфганг. У месячніку друкаваліся нашыя землякі: К. Буйніцкі, К. Вайтыцкі, М. Грабоўскі, Т. Зан, Ю. Крашэўскі, І. Крачкоўскі, І. Кулакоўскі, А. Адынец, М. Асорыя , А. Плуг (Пяткевіч), А. Рэнэр, У. Сыракомля (Кандратовіч), гісторыкі В. Мацеёўскі, Б. і Т. Нарбуты, В. Трэмбіцкі, І. Ярашэвіч, П. Янкоўскі ды інш. У 1930 г. Ю. Тувім напісаў баладу “Друскеніцкія дрэвы”. Цэлае жыцьцё гэтаму мястэчку пасьвяціў літоўскі мастак і кампазытар М. Чурлёніс. Зь мястэчкам зьвязанае жыцьцё В. Блажэ, Э. Ажэшкі, З. Стрэйкуса, К. Плацяліса, Р. Беляўскайтэ ды інш. На могілках за воз. Друсконіс уся гісторыя Друскенікаў, там пахаваныя выбітныя людзі ўсіх нацыянальнасьцяў. А каля самага возера – брацкая магіла савецкіх воінаў у добрым, дарэчы, стане. Адсюль блізка да да аўтобуснай і чыгуначнай станцыі. У 1934 г. ад Друскенікаў да станцыі Парэчча была збудаваная чыгуначная ветка, якая зьвязвала Друскенікі з Горадняй. Цяпер гэтую ветку разьбіраюць, цягнікі ў Горадню ня ходзяць.

Гады Другой сусьветнай вайны й савецкі пэрыяд для Друскенікаў – цэлая эпоха. Шмат мяйсцовых жыхароў загінула, многія падаліся на Захад ці папоўнілі ўсходнія лягеры й турмы. Мястэчкам і іхнімі жыхарамі гандлявалі, хто як хацеў: каля году Друскенікі былі ў складзе БССР, затым іх аддалі Літ. ССР. Аднак, як Ватыкан у Рыме, і дагэтуль у Друскеніках дзейнічае санаторый “Беларусь” – уласнасьць Рэспублікі Беларусь. (Дрэчы, на фоне агульнага заняпаду санаторнага жыцьця, справа з санаторыем “Беларусь” выглядае сёньня нядблага).

Найвялікшага росквіту Друскенікі асягнулі ў апошнія 25 гадоў савецкай улады. Гэты маляўнічы куток тэрыторыі Літ. ССР на беразе Нёмана пад бокам у Беларусі й Польшчы зрабілі паказухай для сваіх і чужых. На яго не шкадавалі сродкаў ні Масква, ні Вільнюс. Сюды прыяжджалі адпачываць з Масквы, Ленінграда, з усёй Беларусі, зь Кіева. Ехалі – як на Захад. І, сапраўды, для савецкіх людзей літоўскія Друскенікі былі Захадам, а можа й лепш, бо ўсё каштавала капейкі. Друскенікі зь невялічкага правінцыйнага мястэчка пераўтварыліся ў сучасны горад магутных санаторыяў з абсаджанымі дрэвамі вуліцамі, паркавымі й ляснымі сьцежкамі для шпацыру, з сотнямі лавак у лесе, пры азёрах, каля рэчак. Толькі падумаць, у 20-тысячным мястэчку вырасла 9 санаторных гмахаў, адкрылася мноства рэстаранаў, кавярняў, гатэляў, музэяў. Зьмянічся й склад насельніцтва. На цёплыя мястэчкі ў санаторыях панаехалі зблізку й здалёку літоўцы, паболела рускіх, жыдоў, прыежджых беларусаў. Горад зрабіўся шматнацыянальным. Да развалу СССР у 9-ці агромністых санаторыях лячылася да 100 тыс. людзей! Іх лячылі 324 дактары й 800 мэдсёстраў. У двух бальналягічных лячэбніцах на беразе Нёмана кожны дзень рабілася 2,5 тыс. разнастайных працэдураў. Самы вялікі санаторый “Нямунас” мае 650 пакояў і можа ўмясьціць 1213 чалавек... Цяпер ён не працуе. Не працуе й найбольшая ў Эўропе фізыётэрапэўтычная лячэбніца каля Нёмана. Не працуе ці амаль не працуе й бальшыня астатніх санаторыяў і лячэбніцаў.

У 1965 г. Т. Буткус у сваёй кнізе “Пазнаёмся з Савецкаю Літвою” пісаў: “У будучым Друскенікі зробяцца пекнай здраўніцай, але ня толькі. Тут непадалёку будзе пабудаваная вялізная водная электрастанцыя, а калі канал злучыць Нёман з Дняпром, Балтыку з Чорным морам, праз Друскенікі паплывуць марскія караблі...” Марскія караблі цераз Друскенікі не паплылі, не паплылі нават і рачныя параходы. Паміж Друскенікамі й Горадняй паўстаў “кітайскі мур”. Да Парыжа цяпер лягчэй дабрацца, чым да Гародні. Жыцьцё ў мястэчку замёрла, як перад цунамі. Моладзь, у пошуках працы, выяжджае калі не на Захад, дык у Вільню. Горад неяк пашарэў. Толькі Нёман паранейшаму суворы й грозны, паранейшаму шуміць Ратнічанка ды галасіста заліваецца над ёю птаства – вясну сустракае.

**Юзэф Русакевіч**



*Друскенікі. Галава дзукаса.*



*Друскенікі. Занядбаная лякарня.*



*Друскенікі. Пустуючая фізыётэрапэўтычная лячэбніца.*

**Беларускія кнігі**
Разнастайная тэматыка, нізкія кошты.
**Кнігарня «Draugystė»**
Gedimino pr. 2, Vilnius
Даведкі: **61-62-24, 42-38-02**

**Умовы падпіскі:**

**Чытачы далёкага замежжа** могуць падпісацца, даслаўшы на рэдакцыю *імянны чэк* сакратару газэты Паўлу Саўчанку (*Pavel Savcenko*). Кошт падпіскі на год – **$20**. Паведамляем гэтаксама наш валютны рахунак:
*Please pay to AS Hansapank, HABA EE 2X at Bankers Trust Co., New York, BKTR US 33, for further credit to AB Hansabankas, HABA LT 22, in favour of VVIC "Demokratija Baltarusijai", account no.* ***10 000 196 490.***

**Жыхары Літвы** могуць падпісацца ў сакратара газэты Паўла Саўчанкі (т: **61 62 24**) або ў кожным паштовым аддзяленьні Літвы. Падпісны індэкс газэты – **0187**. Кошт падпіскі на год – **12 Lt.**

**Падпішчыкам у Беларусі** й **краінах СНД** паведамляем адрас у Менску:
*Александар Стральцоў, 220050 Менск, п/с 26.* Кошт падпіскі на год: у Беларусі – сума ў бел. рублях, эквівалентная **$ 3**, у краінах СНД – сума ў нацыянальнай валюце, эквівалентная **$ 5**.

**Падпішчыкам у Польшчы** паведамляем адрас : *Wieslaw Choruzy, Porosly 18 «а», 16006 Barszczewo.* Кошт падпіскі на год – сума ў злотых, эквівалентная **$ 8**.

Адрас для допісаў:
«Рунь» 2001 Vilnius, a/d 1021, Lithuania
*e-mail:* **editor@runbel.lt**

**Ахвяраваньні на газэту:**

| | |
|---|---|
| М. Дзямковіч з Амэрыкі | USD 25 |
| В. Кажан з Амэрыкі | USD 30 |
| А. Палескі з Польшчы | USD 24 |
| М. Целушэцкі з Польшчы | USD 12 |
| К. Кажан зь Беларусі | USD 20 |
| Б. Стус з Амэрыкі | USD 50 |
| Л. Сурак з Амэрыкі | USD 35 |
| К. Акула з Канады | USD 30 |
| В. Шчэцька й А. Кузьміцкая з Амэрыкі | USD 30 |
| К. Вініцкая з Амэрыкі | USD 25 |
| М. Залога (ад БПЦ у Лёндане) | GBP 100 |
| М. Лужынскі з Аўстраліі | AUD 200 |
| У. Ліпскі з Аўстраліі | AUD 100 |
| В. Махнач з Амэрыкі | USD 20 |

РУНЬ газэта беларусаў Літвы
Lietuvos baltarusių laikraštis
заснавальнік
**Таварыства беларускай культуры ў Літве**
выдаўца
**Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў *«Дэмакратыя для Беларусі»***
адрас рэдакцыі
Taikos, 50-29, 2017 Vilnius
тэлефон: (+ 370 2) 26 10 62
факс: (+ 370 2) 42 38 02
**http:// www.runbel.lt**
*e-mail:* editor@runbel.lt
**Алег Мінкін** – рэдактар
**Павал Саўчанка** – сакратар
друкарня **UAB «Dumsa»**,
Žirmunų g. 68, Vilnius
наклад **1000**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



## 10 красавіка

у Сойме Літоўскай Рэспублікі адбыліся парляманцкія слуханьні, на якіх выступілі вядомыя палітыкі Беларусі й жонкі зьніклых ці перасьледаваных прадстаўнікоў беларускай апазыцыі. Ірына Красоўская й Тацяна Клімава казалі пра тое, што сёньня ў Беларусі йдзе сапраўдная вайна супраць апазыцыі. Муж Красоўскай зьнік, і дзе ён, невядома, а Андрэй Клімаў быў кінуты за краты. Спн. Юлія Чыгір, жонка былога прэм'ер-міністра РБ, распавяла пра перасьлед сваё сям'і з надуманых абвінавачаньняў. Муж пабываў за кратамі, а малодшы сын атрымаў 7 гадоў зьняволеньня. Паводле выступоўцаў, чарада



палітычнага перасьледу пачалася з 1997 г. Загадкава памёр Карпенка, зьнікаюць няўгодныя рэжыму палітыкі й вядомыя ў краіне людзі. За ўсім гэтым стаяць спэцслужбы Беларусі й Расеі. Літоўскія парлямэнтары, Р. Юкнявічэне, В. Ландзбергіс, В. Станкевіч ды інш., падтрымалі беларускую ініцыятыву ў справе стварэньня незалежных міжнародных камісіяў, якія-б выяўлялі лёс зьніклых у Беларусі людзей, дамагаліся ад беларускіх уладаў не парушаць правы чалавека й весьці аб'ектыўнае рассьледаваньне ў справе зьніклых. Літоўскі бок абяцаў падключыць да гэтае справы ўплывовыя міжнародныя арганізацыі.

**Павал Саўчанка**

## Чэчэнская дыяспара Літвы



*Ярэк Саўчанка з бацькам трымаюць сьцяг незалежнай Рэспублікі Ічкерыі*

адзначыла 21 красавіка гадавіну сьмерці Джахара Дудаева. На катэдральны пляц, дзеля ўшанаваньня памяці першага прэзыдэнта Рэспублікі Ічкерыя, сабраліся чэчэнцы, літоўцы й беларусы-віленчукі – сябры Таварыства беларускай культуры. Літва зь першых дзён першай чэчэнскай вайны падтрымлівае гераічны чэчэнскі народ у ягонай барацьбе за незалежнасьць. У Вільні дзейнічае Прадстаўніцтва Рэспублікі Ічкерыя, ва ўнівэрсытэце коштам літоўскай дзяржавы атрымлівае адукацыю група чэчэнскай моладзі, ёсьць у Вільні й плошча імя Джахара Дудаева.

**Валянціна Грыневіч**

## 6 красавіка

у радзінных мясьцінах Францішка Багушэвіча (Сьвіраны, Савічуны) адбылася імпрэза ў справе ўшанаваньні памяці нашага знакамітага клясыка. Ладзілася імпрэза сіламі ТБМ Віленскага краю. На імпрэзу прыехала купка сьведамай беларускай інтэлігенцыі зь Літвы, а таксама вядомы даследчык жыцьця й творчасьці Францішка Багушэвіча, літаратуразнаўца Уладзімір Содаль і фатограф Каляда зь Менску. Праўда, сьвята адбылося без начальства: запрошаныя прадстаўнікі беларускай амбасады ў Літве й кіраўнікі з раённага самакіраваньня важнай у культурным жыцьці беларусаў Літвы (і ня толькі) прайгнаравалі. Затое да прыежджых далучыліся мяйсцовыя жыхары й, што асабліва цешыць, школьнікі тамтэйшай польскай школы. Напачатку імпрэзы на сцыне прыватнага дому спадара Філіповіча ў Сьвіранах, каторы стаіць у непасрэднай блізкасьці да мейсца, дзе некалі была радзінная сядзіба Багушэвіча, - была ўстаноўленая гранітная мэмарыяльная табліца з надпісам на лаціцы: "Сьвіраны. 21. 03.1840 г. радзіўся паэт Францішак Багушэвіч". Памятную табліцу сьвенціў ксёндз-уніят Ян, каторы правёў багаслужбу на беларускай мове. Затым у суседніх Савічунах, каля будынка бібліятэкі, на якім летась таксама была ўстаноўленая мэмарыяльная табліца Ф. Багушэвічу, адбылася самая імпрэза. Сярод выступоўцаў былі багушэвічазнаўца У. Содаль, старшыня ТБМ Ю. Гіль, пісьменьнік А. Мінкін, настаўніца беларускай мовы Л. Мілаш, карэспандэнт польскага радыё "Паленія" А. Старавойтаў ды інш. Сп. Содаль, у прыватнасьці, сказаў: "Мы маем поўную згоду між літоўскаю ўладаю й беларусамі Віленскага краю. На радзіме слыннага беларускага прарока віленскія беларусы ладзяць сьвята Багушэвічавай паэзіі, усталёўваюць у Сьвіранах памятную табліцу пра народзіны тут слыннага песьняра беларускага народу, у суседніх з Сьвіранамі Савічунах засноўваюць беларускую бібліятэку імя Багушэвіча, ягоным-жа імем называюць тут адну з вуліцаў. Так і павінна быць у цывілізаваных краінах. Ушанаваньне на Віленшчыне Багушэвічава імя , я пэўны, паспрыяе паляпшэньню маральнасьці й духоўнасьці Віленскага краю, а самай Літвена дасьць павагу, як краіне, дзе ўмеюць шанаваць ня толькі сыноў свайго народу, але й суседняга". Пасьля імпрэзы (а было даволі холадна) загадчыца бібліятэкі спн. Ванда Ермаковіч запрасіла ўсіх прысутных на гарачую гарбату, пад час якой мяйсцовая жыхарка спн. Ванда Зянкевіч частавала гасьцей сваімі прысмакамі. Аднак што мяне асабліва парадавала, дык гэта тое, што ў Савічунах і Сьвіранах яшчэ не забыліся на родную мову. Нават знайшоўся сярод іх і спадкаемец Багушэвіча, каторы чытаў свае вершы на "простай" мове. Вершы здаліся мне не благімі.

**Юры Гіль**

## Гурт "Ветах"



Менскага нацыянальнага цэнтру творчасьці дзяцей і моладзі завітаў 29 красавіка ў Вільню. Гурткоўцы вывучаюць народныя рамёствы й фальклёр, яны добра вядомыя ня толькі ў Беларусі – іх запрашаюць на міжнародныя фэстывалі. Гэтым разам яны бралі ўдзел у нацыянальным літоўскім фэсьце "Юр'я" ў жывапісным прыморскім мястэчку Паланга. Па дарозе завіталі ў дамкі нашага ТБК, дзе выступілі зь цікавай праграмай: прагучэлі беларускія абрадавыя песьні зь веснавога цыклу, былі выкананыя беларускія танцы "Крыжачок", "Кракавяк" ды інш. Кіруюць гуртам Вячаслаў Калацэй і Тацяна Пладунова. Хочацца адзначыць, што сябры гурта былі апраненыя ў аўтэнтычныя беларускія строі, якія рабілі яны самі ці якія засталіся ім аб іхных бабуляў і прабабуляў.

**Павал Саўчанка**




*Напрыканцы красавіка рэдакцыю газэты "Рунь" наведаў беларус з Амэрыкі Анатоль Колбун. Ён распавёў шмат цікавага пра жыцьцё й дзейнасьць нашых суайчыньнікаў у ЗША, а таксама пакінуў для архіва рэдакцыі шэраг фатаматар'ялаў. На здымку - пікет беларускай грамадзкасьці Амэрыкі перад беларускаю амбасадаю ў Нью Ёрку*

13 траўня споўнілася 80 гадоў з дня нараджэньня сьв. памяці **Леваніда Караля** (13.05.1922 – 14.07.1998), шчырага беларуса, грамадзкага дзеяча, супрацоўніка газэты "Рунь". У наступным нумары мы пазнаёмім чытачоў зь нізкай ягоных нідзе раней непублікаваных вершаў.

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013





**Галіна Сутула** нарадзілася 14 чэрвеня 1963 г. у вёсцы Мацясы Глыбоцкага раёну Віцебскай вобласьці. Скончыла Вярхнянскую васьмігодку, затым Глыбоцкую СШ № 3. У 1992 г. скончыла факультэт журналістыкі БДУ. Супрацоўнічала з часопісам „Вожык", „Народнай газетай", „Нашым словам". Больш двух гадоў працавала рэдактарам незалежнай рэгіянальнай газэты „Вольнае Глыбокае". У 1999 г. ў в-ве „Беларускі кнігазбор" выйшла кніга прозы й вершаў Г. Сутулы „След на вечным гасцінцы". Цяпер пісьменьніца рыхтуе да выданьня кнігу прозы „Дзёньнік простага смяротнага". Піша апавяданьні, нарысы, фэльетоны, гумарэскі, пародыі, філязафізмы. Прапануем чытачам прысланы ў рэдакцыю верш Галіны Сутулы

### Вярніся, мова!

*Усе крычаць: „Вярніся, мова!*
*За ганьбу, зьдзекі нам даруй,*
*Багаславі хоць-бы пайсловам,*
*На беднасьць шчырасьць ахвяруй"...*
*„Мае вы, людцы, — мова кажа, —*
*Куды вяртацца? Дома я.*
*Як папялушка ў брудзе-сажы —*
*Ня бачу лепшага жыцьця.*
*Мяне прыгрэлі нашы вёскі*
*І песьцілі, нібы дзіця,*
*І рускамоўныя абноскі*
*Хто й апранай — дык нехаця!*
*Сярод бабуль, жанок, малечы*
*Была равесьніцай заўжды...*
*Хто толькі мог сяло калечыў,*
*Я-ж ратавала ад бяды.*
*Пякучы боль гаючым сьпевам*
*Лячыла, мусіла лячыць.*
*Душа ад крыўдаў „правых", „левых"*
*Ляцела стоцьма ўдалячынь.*
*Нібы паношаныя транты*
*Мяне вы скідвалі тады,*
*Калі зьяжджалі зь вёскі раптам*
*Дзеля заробку ў гарады.*
*Там бралі новыя манэры,*
*Цураліся сваіх асноў,*
*Бязьвер'ем заглушалі веру,*
*Не пазнавалі сярод моў.*
*І сёньня шанасьць мне ня тая —*
*Пхнуць на задворкі і ў скляпы.*
*Я зноў бяздомная, сьляпая,*
*І мой народ глухі, сьляпы.*

*Уладзімір Старчанка*

# Дыялёгі або нататкі ў мэтадалёгіі палітычнай дзейнасьці

***Беларускім палітыкам прысьвячаецца...***

## Уводзіны

Адвечная безвыніковасьць палітычных намаганьняў беларускіх апазыцыйных сілаў, якая асабліва яскрава праявілася ў апошнія гады, спарадзіла хвалю расчараваньня й зьняверанасьці ва ўласныя сілы ў беларускай палітычна актыўнай грамадзкасьці. Пасьля «элегантнай» перамогі Лукашэнкі ў выбарчым фарсе 2001 г. моднымі сталі выказваньні кшталту: «Мабыць, наш час прайшоў?», «Усё безвынікова», «З гэтым народам нічога ня зробіш», «Трэба йсьці ва ўнутраную апазыцыю ды чакаць лепшых часоў» і да іх падобныя. На гэтым фоне новыя суперідэі, накшталт удзелу ў выбарах у мясцовыя саветы, натхняюць нямногіх. Адчуваецца крызіс ня толькі ідэяў, але й самай палітдзейнасьці, якая ўсё больш і больш нагадвае псэўдадзейнасьць.

Сыстэмны крызіс, які ахапіў беларускую апазыцыю, патрабуе сур'ёзнага аналізу палітычнай сытуацыі й дзейнасьці галоўных фігурантаў палітычнай барацьбы. І, на мой погляд, грамадзтва цяпер гатовае такім аналізам заняцца. Ёсьць таксама спадзяваньне, што схільнай да аналітыкі публіцы надакучыла чытаць артыкулы папулярных публіцыстаў і вядомых «фабрыкантаў» думкі, бо чытаньне гэтае ўжо не дае здавальняючых адказаў на самыя актуальныя пытаньні палітычнага жыцьця краіны.

Між тым праблемы, якія не знаходзяць здавальняючага вырашэньня ў межах звыклых уяўленьняў і мадэляў, могуць быць зусім натуральна зьнятыя ў выніку мэтадалягічнага аналізу ды распрацоўкі новай і больш адэкватнай мадэлі палітычнай рэчаіснасьці. Аднак перш чым такую мадэль распрацаваць, неабходна знайсьці, вызначыць і сфармуляваць праблемы (разрывы) дзейнасьці. А зрабіць гэта можна ў межах мэтадалягічнага аналізу з пазыцыяў *тэорыі дзейнасьці*. Дарэчы, з гэтых самых пазыцыяў зусім ня важна, якую дзейнасьць аналізаваць або ажыцьцяўляць: палітычную, пэдагагічную ці іншую, бо структура й заканамернасьці дзейнасьці маюць агульны характар.

Мэта гэтых нататкаў у папулярнай форме выкласьці некаторыя палажэньні тэорыі дзейнасьці й праілюстраваць іх разнастайнымі прыкладамі, у тым ліку й з палітычнага жыцьця Беларусі. Матар'ял пададзены ў выглядзе 12 кароткіх дыялёгаў, кожны зь якіх суправаджаецца высновай, камэнтарам, «бытавым» прыкладам і палітычнай аналёгіяй...

Толькі мушу папярэдзіць чытача, што ў ходзе нататкаў я не ўстрымаўся ад аналізу й сваіх ацэнак палітычнай сытуацыі ды палітычнай дзейнасьці ў межах акрэсьленага праблемнага поля. Спадзяюся, што прадэманстраваныя ўзоры мысьлядзейнасьці будуць карысныя для беларускіх палітыкаў і асабліва для шэраговых удзельнікаў палітычнай дзейнасьці, бо дазволяць лепш разьбірацца ў сапраўдных мэтах і рэальных накірунках уласнай палітдзейнасьці, узброяць уяўленьнямі аб крытэрыях ацэнкі дзейнасьці ды навучаць адрозьніваць дзейнасьць ад псэўдадзейнасьці...

Спадзяюся таксама, што мае развагі не пададуцца чытачу трывіяльнымі й падштурхнуць да актыўнай самастойнай мысьлядзейнасьці. А гэта неабходная ўмова для вырашэньня любых праблемаў. Што-ж тычыцца эфэктыўнай палітычнай дзейнасьці, дык яна можа ажыцьцяўляцца толькі тады, калі суправаджаецца ня менш эфэктыўнай мыслядзейнасьцю.

## Дыялёг першы

**- Уяві сабе, што ў цябе ёсьць яблык. Уявіў?**

- Так. У'явіў!

**- Добра! А цяпер адкажы на пытаньне: Колькі ў цябе яблыкаў?**

- Адно.

**- Выдатна! А цяпер зьеш свой яблык!**

- Як гэта?!!

**- Ня можаш. А ўсё таму, што ў сапраўднасьці яблыка ў цябе няма.**

***Выснова.*** Ідэя яблыка й самы яблык - гэта не адно тое самае.

***Камэнтар.*** Паміж ідэяй і ейным рэальным увасабленьнем ляжыць дзейнасьць. Дзейнасць - гэта спосаб матар'ялізацыі ідэяў! (Мысьлядзейнасць - спосаб утварэньня ідэяў).

***Прыклад.*** Каб матар'ялізаваць ідэю яблыка, трэба ўзяць адпаведнае насеньне (або саджанец), пасадзіць у зямлю, некалькі гадоў паліваць, падкормліваць, абразаць, абараняць ад шкоднікаў і суседзяў, аж пакуль ня вырасьце першы ўраджай. Вось цяпер можна яблык сарваць і зьесці. Ёсьць і іншы шлях: заробіць грошы, пайсьці на рынак, купіць вырашчаны кімсьці яблык і зьесьці. Урэшце можна скрасьці чужы яблык. Але няма шляху, каб, мінуючы асэнсаваную й мэтанакіраваную дзейнасьць, матар'ялізаваць ідэю.

***Палітычная аналёгія.*** Незалежная, вольная, дэмакратычная Беларусь - нашая мэта! Але недастаткова марыць аб вольнай і квітнеючай Беларусі. Каб у ёй пажыць, трэба ажыцьцяўляць мэтанакіраваную дзейнасьць у справе ейнага будаўніцтва.

## Дыялёг другі

**- Чаго ты хочаш?**

- Хачу быць багатым і здаровым!

**- А вольным быць хочаш?**

- Не хачу! Не разумею нават, навошта?

**- Тады ня будзе ў цябе ні багацьця, ні здароўя, бо здароўе сваё страціш, умацоўваючы дабрабыт гаспадара твайго!**

***Выснова.*** Старанна выбірай мэту й не стаў дробнае й прыватнае наперадзе цэлага ды агульнага. Прыняўшы следзтва за прычыну, не шукай плёну.

***Камэнтар.*** Правільны выбар мэты – падмурак выніковай дзейнасьці. Памыліўшыся з мэтай - памылісься й з усім астатнім, бо мэта - гэта сыстэмаўтвараючая рэч, якая вызначае ня толькі кірунак, але й задачы, сродкі й мэтады дзейнасьці.

***Прыклад.*** Пчолы ўсё лета нястомна носяць мёд у соты, але, усё роўна, мёду на зіму ў вульлі застанецца роўна столькі, колькі пакіне ім іхны гаспадар-пчаляр. Пчаляр трымае пчолаў не для таго, каб зрабіць ім райскае жыцьцё, а для таго, каб карыстацца з іхнае працы. Дрэнны й скваплы гаспадар можа пакінуць мёду так мала, што пчолы не перазімуюць.

***Палітычная аналёгія.*** Так і народы, якія жывуць у калёніі: чым больш і лепш людзі працуюць, тым больш іх абіраюць каляніяльныя ўлады. Калёніі патрэбныя не для таго, каб рабы былі здаровыя ды багатыя, а для таго, каб карыстацца з іхнай працы. У цяжкія для мэтраполіі часы каляніяльныя ўлады могуць забраць у людзей нават самае апошняе. Тады людзі пачынаюць есьці адзін аднаго, каб выжыць. Для таго, каб быць багатымі, трэба самім распараджацца плёнам сваёй працы, а дзеля гэтага трэба быць вольнымі людзьмі. Таму мэта - свабода, а дабрабыт - следзтва свабоды.

## Дыялёг трэці

**- Ты што гэта робіш?**

- Трэніруюся скакаць у вышыню!

**- А навошта?**

- Хачу патрапіць на Месяц!

**- І як посьпехі?**

- Проста выдатныя. Тыдзень таму скакаў на 120 сантымэтраў, а цяпер ужо на 125!

**- Прагрэс відавочны. Але-ж, усё роўна, каб патрапіць на Месяц табе патрэбная ракета!**

- Ну, ты сказаў! Адкуль у мяне сродкі на ракету? Проста буду больш трэніравацца!

**- Напэўна, зь цягам часу зь цябе атрымаецца ндзрэнны лёгкаатлет, але на Месяцы табе не бываць!**

***Выснова.*** Нават правільна абраўшы мэту, бойцеся скаціцца ў псэўдадзейнасьць. Псэўдадзейнасьць змарнуе і час, і здароўе, і рэсурсы, але яна прынцыпова ня можа прывесьці да мэты. Да мэты вядзе толькі дзейнасьць.

***Камэнтар.*** Дзейнасьць ня толькі заўсёды мэтанакіраваная, але яна заўсёды адэкватная мэце (ў тым ліку і ў рэсурсным пляне). Неадэкватная дзейнасьць ператвараецца ў псэўдадзейнасьць нават тады, калі мэта дэкляруецца правільна. У пастку псэўдадзейнасьці трапляе й той, хто, сьвядома ці не, але падмяняе мэту самай дзейнасьцю. Дзейнасьць дзеля дзейнасьці - тыповы прыклад псэўдадзейнасьці. Прыкра, але ў рэчаіснасьці дзейнасьць вельмі лёгка замяшчаецца псэўдадзейнасьцю. І гэта не заўсёды лёгка заўважыць, бо ў аснове абеіх ляжыць працэс. Але працэс дасягненьня мэты й працэс марнаваньня рэсурсаў - гэта два прынцыпова розныя працэсы! Сутнасьць дзейнасьці ў матар'ялізацыі ідэяў! Сутнасьць псэўдадзейнасьці - у ідэалізацыі самай дзейнасьці! Але-ж дзейнасьць - гэта ня мэта, а спосаб ейнага дасягненьня! Псэўдадзейнасьць горшая за бязьдзейнасьць, бо апошняя (у адрозненьні ад першай) не патабуе расходаваньня рэсурсаў: людзкіх і матар'яльных. Псэўдадзейнасьць - найлепшы спосаб марнаваньня вялікіх ідэяў, вялікіх людзей і вялікіх спадзяваньняў! Да таго-ж псэўдадзейнасьць - найкарацейшы шлях да расчараваньня!

***Прыклад.*** Каб рэалізаваць вялікую партыю нават вельмі карыснага для спажыўцоў тавару, трэба, каб людзі даведаліся пра ягонае йснаваньне. Дзеля гэтага неабходна з дапамогай СМІ давесьці да людзей адпаведную рэклямную інфармацыю. Калі-ж пра йснаваньне тавару будзе ведаць толькі жонка ды цёшча ўладальніка, дык тавар згніе на складзе. Пашкадаваўшы ці не знайшоўшы сродкі на інфармацыйную раскрутку тавару, можна змарнаваць працу сотняў і тысячаў людзей, а замест прыбытку атрымаць велізарныя страты ды стацца банкрутам!

***Палітычная аналёгія.*** Палітычным банкрутам лёгка можа стаць нават узброеная самай высакароднай мэтай і вялікай ідэяй арганізацыя, калі яна ня здолее забясьпечыць сваю дзейнасьць адэкватнымі мэце рэсурсамі: людзкімі й матар'яльнымі. Але яшчэ лягчэй збанкрутуе тая палітычная сіла, якая ў пагоні за рэсурсамі адмовіцца ад вялікай ідэі і палітычнай мэты! Для дзейнасьці патрэбныя мэта, плян і рэсурсы, псэўдадзейнасьць задавальняецца тым, што бязмэтна марнуе рэсурсы, а для бязьдзейнасьці бывае дастаткова адной мары.

*Працяг будзе*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# Прапановы ў справе ўзаемадзеяньня беларускай дыяспары ў сьвеце

Калі йдзе размова пра беларускую прысутнасьць у сьвеце, шмат хто ў самай Беларусі не дае веры, што беларусы за мяжой здольныя аб'яднацца дый рабіць нейкія захады ў справе захаваньня беларускай культуры сярод іншамоўнага асяродзьдзя. Чаму людзі зьдзіўляюцца? Найперш таму, што ня ўсё добра з гэтым пытаньнем ў самай Беларусі. Але ня будзем казаць пра Беларусь. Паразважаем наконт дыяспары.

Дыяспара – магутная сіла. І тыя краіны, якія зразумелі гэта, шмат робяць у справе ўмацаваньня сваёй дыяспары, а, значыць, і свайго іміджу й аўтарытэту за мяжою. Прыкладаў шмат нават у нас, у Іркуцку. Гэта і Польшча, і Нямеччына, і Ізраіль, і Фінляндыя, і нават Літва. І, сапраўды, дзякуючы намаганьням перадусім гэтых краінаў ды іхным шчыльным сувязям з дыяспарамі (якія, дарэчы, значна меншыя, чым, напрыклад, беларуская) – аўтарытэт і самых дзяржаваў і іхных дыяспараў значна вырас. Напрыклад, Польшча ўжо зьбіраецца будаваць Польскі дом культуры амаль у цэнтры горада. Прычым усе выдаткі бярэ на сябе польскі бок. І мэр гораду ідзе насустрач. Зноў-жа, у цэнтры гораду ўжо працуе Польскі гандлёвы дом і г. д.

Чаму-ж у нас справы пакуль ідуць значна горш? Наогул, мы ўжо прызвычаіліся працаваць без падтрымкі нашай мэтраполіі. Мы ўжо самі здолелі сваімі справамі тут, у Іркуцку, падняць і свой аўтарытэт, і аўтарытэт нашае нацыі. Але... не дзяржавы. І прычына тут адна: няма ў Беларусі прадуманай нацыянальнай палітыкі. Ёсьць спроба знайсьці ў Расеі паплечнікаў ідэі "славянскага братэрства" й проста "любіцеляў" А. Р. Лукашэнкі. І такія людзі знаходзяцца. Але што далей? Акрамя крыку, што ўсе славяне ёсьць браты, а самыя найбліжэйшыя браты – гэта рускія й беларусы, іхная справа далей ня рушыцца. Яны нават пра сваю гісторыю, пра гісторыю беларускага народу, нічога ня ведаюць. Таму такія людзі могуць быць толькі каньюктурнымі асобамі нейкага чарговага палітычнага дзеяньня, але ня годнага прадстаўляць беларускую нацыю на чужыне. Што-б мы не казалі пра "братэрскія сувязі", але тут, у Іркуцку, іншая зямля, зусім ня нашая, не беларуская. І бульбу тут саджаюць не барознамі, а "клунямі", не "пад каня", а "пад лапату". Праз адно ўжо гэтае беларусы на Іркуччыне ўспрымаюцца, як людзі з другой традыцыяй. Дый мы, беларусы, хоць у асноўным не жадаем асабліва вылучацца, а ўсё-ж не-не, ды скажам: "Ды яны тутака ня так робяць, як у нас". А што з гэтага значыць? Што мы з рускімі ёсьць розныя народы, павінныя не саромецца сваёй нацыі й годна несьці свае традыцыі й светаадчуваньне.

## Мае прапановы:

### 1. Нацыянальная

Нам, беларусам, трэба як мага хутчэй распрацаваць *спрыяльную нацыянальную палітыку* (СНП). Гэтая СНП павінная быць найбольш накіраваная на ўмацаваньне беларускай культуры, мовы, гісторыі, беларускай традыцыі й беларускага светаўспрыманьня (беларускага менталітэту). Безумоўна, лепш за ўсё было-б, калі-б беларускія ўлады, зразумеўшы неабходнасьць СНП, пачалі рабіць рэальныя захады дзеля ўмацаваньня беларускай дыяспары. Самае цікавае, шмат грошай дзеля гэтага ня трэба. Неабходна толькі выказаць зацікаўленасьць, наладзіць стасункі з дыяспарай у розных краінах. Трэба паслухаць сваіх суродзічаў за мяжою. Трэба зразумець, што толькі тыя, што шануюць свае нацыянальныя сымбалі, спрыяюць разьвіцьцю й захаваньню роднай мовы, пашыраюць веды пра беларускую гісторыю, – толькі такія й здольныя па-сапраўднаму прадстаўляць сваю мэтраполію ў сьвеце. Больш таго, толькі такія людзі й зьяўляюцца сапраўднымі патрыётамі Беларусі, і толькі яны згодныя самаахвярна працаваць на ейную карысьць.

Але што рабіць, калі гэтага не разумее нашая дзяржава? Што рабіць, калі афіцыйная ўлада нават не жадае пачуць голас сапраўднай дыяспары? Я лічу, што ў такой сытуацыі ня трэба чакаць нейкіх захадаў ад чыноўнікаў, якія самыя не разумеюць, што яны робяць. Трэба выхоўваць ды распаўсюджваць СНП унутры дыяспары самастойна. У Іркуцку мы ўжо зрабілі шмат у гэтым накірунку. Прычым не атрымліваючы, фактычна, ніякай дапамогі з боку РБ. Што дзеля гэтага трэба? Не так ужо й шмат. Для ўмацаваньня беларускай культуры мы ладзім штогод нашыя нацыянальныя сьвяты: Купальле, Дзяды, Каляды, Гуканьне вясны, Сёмуху. Мы іх робім згодна нашых старых, яшчэ дахрысьціянскіх традыцыяў, і ў гэтым нашая моц. Мы ня толькі аб'ядноўваем на сьвятах людзей розных веравызнаньняў, але й адраджаем нашую старажытную культуру. Да таго-ж, на гэтыя сьвяты зьбіраецца іншым разам да 250-300 чалавек. І ўжо калі мы правялі сёлета шостае Купальле, дык было бачна, што гэтае сьвята сталася для нашай суполкі добрай традыцыяй. Гэтага сьвята ўжо чакаюць, і яно вельмі патрэбнае людзям. Дарэчы, праз народныя беларускія сьвяты шмат хто зь "няўпэўненых" беларусаў пачаў адчуваць сябе шчырым беларусам.

### 2. Гістарычная

Усе, напэўна ведаюць, што без сваёй нацыянальнай гісторыі, у якой ушаноўваюцца не генэралы іншай краіны (Сувораў, Кутузаў), не цары-каты (Іван Грозны, Пётар І), а свае нацыянальныя пасіянарныя дзеячы, – не абыходзіцца ні адзін народ. Мы стаім перад выбарам: альбо мы адмаўляем сваёй, зноў-жа, *годнай* гісторыі й зьнікаем, як народ, альбо мы пачынаем выхоўваць сярод нашай моладзі *гістарычную годнасьць*. Толькі ў апошнім выпадку мы можам разьлічваць, што пасіянарных дзеячаў, якія згодныя працаваць на карысьць адраджэньня Бацькаўшчыны, будзе ў некалькі разоў больш. Я ўпэнены, што выхоўваць гістарычную годнасьць трэба з самага пачатку – з ушанаваньня *нацыянальных сымбаляў* (НС).

У Сядзібе нашага Таварыства, дый і на нашай эмблеме, на шыльдзе, прысутнічаюць НС. Да мяне заходзіць новы чалавек і першае пытанне, што гэта за вершнік на кані. І я тлумачу. Кожнаму новаму чалавеку. І бачу, як пад уздзеяньнем 700-гадовай беларускай эмблемы чалавек пачынае адчуваць сваю *годнасьць*. Прычым шмат хто й з рускіх, даведаўшыся пра нашыя гістарычныя посьпехі, пачынае паважаць нас значна больш. Ня так даўно адзін мой знаёмы, прачытаўшы ў адной з кніг пра 8 верасьня 1514 г., мне заявіў: "Цяпер я буду кожны год адзначаць ваш Дзень вайсковай славы. Ён не беларус. І не зьяўляецца сябрам Таварыства, але ён здолеў зразумець гістарычнае значэньне гэтай бітвы.

Мяне іншым разам называюць БНФ-аўцам толькі за тое, што нашу Пагоню. Але гэта зусім ня так. Я гісторык. Прычым гісторык, які ведае гісторыю свайго народу. Дык як я магу не шанаваць нацыянальныя гістарычныя сымбалі? У Іркуцку мы стварылі Гістарычны клюб "Спадчына". Вы ведаеце, колькі людзей прыйшло на нашае першае паседжаньне? 50 чалавек! Нашая Сядзіба нават ня зьмесьціла ўсіх жадаючых.

### 3. Культурная

*Беларуская культура* (БК) павінная разыходзіцца вялікімі хвалямі па усім сьвеце. Перад нашым ІТБК стаяць дзьве асноўныя задачы: а) аб'яднаць як мага больш людзей беларускай нацыянальнасці ў адну моцную дыяспару; б) пашырыць веды пра БК сярод іркуцянаў. Згодна гэтым задачам мы й вядзем сваю працу. Нас ужо заўважылі ўсе. 31 траўня Таварыству споўнілася 5 гадоў. Іншым Нацыянальным культурным цэнтрам у Іркуцку споўнілася значна больш гадоў, але ўсе зайдросьцяць нам, бо мы на сёньня больш актыўныя й маем шмат моладзі. Чаму так? Таму што мы бярэмся за любую справу. Мы ня толькі зьбіраемся разам і сьпяваем нашыя песьні, але мы ўдзельнічаем у розных гарадзкіх мерапрыемствах і ў вобласьці, самі праводзім фэстывалі й абавязкова нацыянальныя абрады. І гэта спрые жаданьню моладзі прыходзіць да нас і шукаць свае беларускія карані.

Я ўжо даўно заважыў, што чалавек, які пабываў у нас на Купальлі, незалежна ад таго, што ў яго напісана ў пашпарце, нярэдка робіцца беларусам. І гэта ня жарт. Але гэтага не дастаткова. Трэба выходзіць на рэгіянальны ўзровень, на дзяржаўны ўзровень, дый і на міжнародны ўзровень. Цудоўныя прыклады мы маем у Сыбіры. Так, напрыклад, 22 красавіка ў Навасыбірску быў праведзены Першы агульнасыбірскі фэстываль беларускай песьні, на які прыехалі зь Цюмені, Навасыбірску й вобласьці, зь Іркуцку розныя беларускамоўныя сьпеўныя калектывы. А 23 чэрвеня, на Купальле, прайшоў і Першы іркуцкі абласны фэстываль беларускай песьні, на які прыехалі прадстаўнікі з 4 раёнаў вобласьці. Навошта гэта? Няма куды падзець грошы? Не! Гэта зьяўляецца вялікім стымулам да вывучэньня беларускай традыцыі творчымі калектывамі. А што надалей? Я сваім дзяўчатам кажу: "Мы паедзем з вамі ў Маскву на Першы агульнарасейскі фэстываль беларускай песьні, а далей – на Першы сусьветны фэстываль беларускай песьні. Няма дзе сабраццца? А давайце да нас, у Іркуцк. Альбо паехалі ў Нью Ёрк. А лепш, безумоўна, усёж, у Менску... Але ж гэта зусім невялікі прыклад – фэстываль.

Польшча, напрыклад, заахвочвае журналістаў пісаць як мага больш пра польскую прысутнасьць у сьвеце. Як гэта робіцца? Вельмі проста. За любую публікацыю ў СМІ Іркуцку польскі бок плаціць ганарар, прычым незалежна ад таго, плаціла самае выданьне журналісту, ці не. Нават мяне паляжі "вэрбавалі" да такіх публікацыяў. Але ў мяне чамусьці ўсё больш пра беларусаў атрымліваецца. Хоць, здаецца, бяруся пра паляка пісаць, а як больш пільна пашукаю пра яго матар'ялу, дык ён беларусам аказваецца. Вось ужо Чэрскага забраў, зараз да Юзафа Каліноўскага падбіраюся...

### 4. Эканамічная

Я ўпэнены, што любая арганізацыя лепш сябе пачувае, калі ня думае пра тое, дзе ўзяць тысячу рублёў, каб выпусьціць свой бюлетэнь, альбо сто рублёў, каб купіць канву для кашулі. А гэта значыць, што трэба разьвівацца эканамічна. Наша РБ мае вялікі патэнцыял. У нас, у Расеі, шмат якія беларускія тавары маюць вялікі попыт. Але-ж гэты самы тавар не купляюць у Беларусі. Яго бяруць на маскоўскіх оптавых складах Газпрома дый іншых манаполіяў. Чаму так? Прычынаў шмат. Але галоўнае неразуменьне таго, што якраз дыспара магла-б прадстаўляць беларускі тавар у замежжы. Мы ўжо адкрылі фірму "Беларускі гандлёвы дом". Да нас ужо зьвяртаюцца людзі, жадаючыя купіць беларускія тавары. Але мы іх ня маем, бо нам зусім невыгодна купляць іх у Беларусі. Што рабіць? Нам трэба наладзіць прамыя стасункі зь беларускімі прадпрыемствамі, а дзяржаве дазволіць заводам прадавацьпрадстаўнікам дыяспары тавар па ўнутранарынкаваму кошту – як для прадпрыймальнікаў зь Беларусі. Вось тады ў нас будзе стымул купляць беларускі тавар не ў Маскве, а ў Менску. Лічу таксама, што трэба наладжваць эканамічныя стасункі паміж беларускай дыяспарай у розных краінах.

### 5. Грамадзкая

Дзеля таго, каб нашая дыяспара моцна трымалася ў замежжы, трэба ствараць Рэсурсныя цэнтры грамадзкіх ініцыятываў (РЦ). Гэтая практыка існуе ўжо ў шмат якіх краінах. Украіна такія цэнтры робіць па ўсім сьвеце. Безумоўна, у РЦ павіннае быць добрае кампутарнае абсталяваньне, сувязь зь сеткаю інтэрнэт, сядзіба й г. д. Такія РЦ павінныя быць цэнтрамі першапачковай падтрымкі грамадзкіх ініцыятываў нашых суродзічаў у замежжы. Як гэта зрабіць? Тут, мабыць, трэба шукаць альбо спонсараў, альбо атрымліваць грант у замежных фондаў, альбо чакаць, пакуль гэтым зацікавіцца дзяржава.

А зараз самае галоўнае: *нашая нацыя павінная адчуць сябе вялікай нацыяй. Наш народ павінен адчуць сябе годным народам. Нашая Бацькаўшчына павінная стацца самастойнай дзяржавай. Вось тады адбудзецца поўнае адраджэньне Беларусі!*

*Старшыня Іркуцкага Таварыства Беларускай Культуры імя Яна Чэрскага*
**Алег Рудакоў**

**Чытайце**
*ГАЗЭТУ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА Ў АМЭРЫЦЫ*
*БЕЛАРУСКІ* **ДАЙДЖЕСТ**
*BELARUSIAN DIGEST*
Газэта выходзіць штомесячна на 12-ці бачынах і каштуе USD 30 лятунскую поштаю
**Выдавец і рэдактор** Мікола Пруські
Mr. Nikolas Prusky, Publicher & Editor
**1086 Forest Hill, SE**
**Grand Rapids, MI 49546-3616 USA**
Tel: **616.942.0108** Fax: **616.942.6364**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# Да этнацыду беларусаў Вільні й Віленшчыны

Ураджэнцы Віленскага краю, зрабіўшыся грамадзянамі БССР, сталіся першымі ахвярамі Савецкага тэрору пад час кампаніі 1937-38 гг. у так званай "справе Польскай Арганізацыі Вайсковай". (Са сьпісу загінулых у Заходняй Сібіры 1216 чалавек, расстраляна было 186 ні ў чым не павінных сялянаў, рабочых, рамесьнікаў, прадстаўнікоў інтэлігенцыі). Гэта быў толькі пачатак. Сапраўдны жудасна-крывавы пір камуністычных уладаў – масавы і пляномерны генацыд беларусаў у Віленскім краі – быў распачаты ад першых дзён II Сусьветнай вайны.

Падчас неабвешчанай вайны з Польшчай у палон было ўзята каля 240 тыс. ваеннаслужачых. Каля 40 тыс. зь іх незаконна ўтрымлівалася ў лягерох для ваеннапалоных (летам 1940 г. дадалося яшчэ 5 тыс. ваеннаслужачых, інтэрнаваных у 1939 г. Літвой і Латвіяй). Значную частку гэтага трагічнага мартыралёгу складалі беларусы – грамадзяне Польшчы, ураджэнцы Заходняй Беларусі ды Віленскага краю. Адпаведна перапісу 1931 г. у Вільні й Віленскім краі (з агульным насельніцтвам 1 263 300) колькасна (289 700) беларусы (22,7%) былі на другім мейсцы пасля палякаў (761 700 – 59,7%). Верасень 1939 года стаўся трагічным для прадстаўнікоў беларускіх палітычных і культурных элітаў. Былі арыштаваныя й зьнішчаныя былы старшыня Рады міністраў БНР, дырэктар Беларускага музэю ў Вільні Антон Луцкевіч, філёзаф Ул. Самойла, літаратар Макар Краўцоў, былы сэнатар ад беларусаў у Польскі Сойм, культурна-грамадзкі дзеяч Вячаслаў Багдановіч, выдавец і рэдактар Янка Пазьняк, інжэнер і педагог Антон Неканда-Трэпка ды шмат іншых. Праграмы генацыду беларусаў ды саветызацыі Літвы й Віленскага краю набірала ўсё большыя абароты ад 1940г. Паводле дадзеных даследчыкаў з НІАЦ "Мэмарыял", у Літоўскай ССР у гэты пэрыяд ворганамі НКУС было арыштавана 4 330 чал. (без уліку арыштаваных Дарожна-транспартным аддзелам НКУС і Асобым аддзелам Краснай Арміі). Колькасьць арыштаваных жыхароў Віленскага краю дакладна невядомая, але яна сягае блізка 4 тыс. чалавек.

Бадай, самым чорным днём для Літвы й ейнага насельніцтва сталася 14 чэрвеня 1941 г. Калі тры папярэднія злачынныя акцыі масавых дэпартацыяў фармальна распаўсюджваліся на якуюсь адну катэгорыю (кулакі, былыя..., антысавецкія альбо сацыяльна-чуждыя элементы й г. д.), дык чацьвертая хваля, у адпаведнасьці з "Планом мероприятий по этапированию, расселению и трудоустройству спецконтингента, высылаемого из Литовской ССР", адначасова накрывала й зносіла ў нябыт аж 10 катэгорыяў насельніцтва.

Да ўжо існуючага арсэналу абвінавачаньняў савецка-нямецкая вайна дадала яшчэ два: "супрацоўніцтва з акупацыйным рэжымам" і "знаходжаньне на акупаванай тэрыторыі". У сакавіку 1944 г. у Вільні ў сваёй кватэры невядомымі быў застрэлены драматург і рэдактар газэты "Беларускі Голас" Францішак Аляхновіч. (У 1927 г. быў прыгавораны да 10-гадовай высылкі на Салаўкі пасля таго, як даверыўся абяцанкам бальшавікоў ды паехаў у 1926 г. зь Вільні ў Савецкую Беларусь).

Са жніўня 1944 г. у Заходняй Беларусі распачалася беларуская нацыянальная партызанка супраць савецкага ладу. Тадыж у Вільні паўстала падпольная арганізацыя беларускіх навучэнцаў. Удзел у ёй браў Алег Лапіцкі, асуджаны пазьней на 10 гадоў зьняволення й забіты ў Казахстане. Ягоны малодшы брат, кіраўнік мядзельска-смаргонскага антысавецкага падпольля вучняў, Расьціслаў Лапіцкі (1928-1950?), быў прыгавораны да расстрэлу. Асуджаная паводле гэтай самай справы Тацяна Хаціловская зараз стала жыве ў Вільні.

Немагчыма зразумець лёгіку пермананэнтнага бальшавіцкага тэрору. Рэпрэсіі былі й ёсць сродкам замацаваньня дзяржаўнай ідэалёгіі, сродкам барацьбы ўлады ня толькі з рэальным і патэнцыйным іншадумствам. Нельга прыняць і дараваць, але мажліва хоць у нейкай ступені зразумець рэпрэсіўныя дзеяньні ўлады датычна ўзброеных апанэнтаў ці ворагаў. Яны мелі розныя правы – ад расстрэлу, шматгадовага лягернага зняволення да дэпартацыі ў самыя аддаленыя й непрыдатныя для жыцьця куткі савецкай імпэрыі. Рэпрэсіі былі сродкам фармаваньня татальнага страху, які ўваходзіў у гены, разбураў асобу, рабіў зь яе паслухмяную, са спрошчанымі інстынктамі і філязофіяй раба – істоту для новабудоўляў сацыялізму. Рэпрэсіі для савецкай дзяржавы зрабіліся мэтай. Чым іншым можна растлумачыць арышт (1944 г.) і расстрэл далёкага ад палітыкі беларускага мастака й мэдыка, гадаванца Віленкага ўнівэрсытэту Валянціна Рамановіча? (У Вільні жывуць ягоныя пляменьнікі – Павал і Аляксей Багдановічы, а ў Варшаве – жонка, мастачка Алдона Рамановіч). Ды хіба толькі яго?

У красавіку 1949 г. ворганы НКУС арыштавалі ў Вільні вядомага рэлігійнага й палітычнага дзеяча Беларусі, навукоўца й публіцыста Адама Станкевіча. Ён быў асуджаны на 25 гадоў зьняволення, памёр у Азерлагу у сьнежні таго самага году. (Успаміны пра ягоную канчыну напісаў Віктар Сікора, удзельнік антыбальшавіцкага падпольля, які зараз жыве на Пастаўшчыне). З 1944 па 1956 г. у канцлягерох адбывалі зьняволеньне больш за 700 каталіцкіх сьвятароў. Гэта быў працяг зьнішчэньня ўсяго беларускага й самых людзей. Толькі ў архіве КДБ Літвы захоўваецца блізка 50 000 (47 819 ) справаў.

Уночы на 29.10.1945 г., пасля неаднаразовых выклікаў на допыты, быў зьняволены на 10 гадоў вядомы адраджэнец, уласьнік беларускай кнігарні, выдавец, паэт Станіслаў Станкевіч. У 1951 г. на 10 гадоў быў асуджаны рэдактар і выдавец Янка Шутовіч. Адпраўлены ў канцлагер друкар, публіцыст і пэдагог Янка Багдановіч.Тадыж выдатны беларускі этнограф Марьян Пецюкевіч атрымаў 25 гадоў турмы, стольківж атрымаў інжынер і музыкант Адольф Клімовіч. У гэтыя самыя часы адбываліся масавыя высяленьні зь Літвы й Заходняй Беларусі ў Іркуцкую вобл. тых, хто вярнуўся на радзіму з арміі генэрала Андэрса. (Было пераселена 4,5 тыс. чал. разам зь нямоглымі бацькамі, жонкамі, дзецьмі).

Агульнавядома, якія неапраўданыя страты беларусы панесьлі падчас вайны, але паза ўвагай дзяржаваў і грамадзкасьці застаюцца дзясяткі, сотні й тысячы безьвінна расстраляных, закатаваных у савецкіх лягерох. Зразумела, што прыклады масавых рэпрэсіяў, паімённы пералік ахвяраў рэжыму можна было-б доўжыць да 80-х гг. ужо XX ст., калі рэпрэсіўныя дзеяньні савецкай улады набылі новыя формы.

За імпэрскім маштабам лічбаў – вагоны, эшалоны, сотні й тысячы людзей, за гэтай жудаснай статыстыкай – далёка ня поўнай і на сёньняшні дзень дарэшты яшчэ неспазнанай – загубленыя непаўторныя асобы ды псыхічна зьнявечаныя лёсы іхных нашчадкаў.

Нягледзячы на супрацьдзеяньне цяперашніх беларускіх уладаў, грамадзкія арганізацыі й незалежныя дасьледчыкі зь Беларусі прыкладаюць намаганні ў справе росшуку, вывучэньня і ўшанаваньня памяці ахвяраў сталінскага генацыду. Маральны стан беларускага грамадзства шмат у чым вынікае з СССРаўскай спадчыннасьці ды пераемнасьці стэрыятыпаў таталітарных часоў. Ні беларуская дзяржава, ні беларуская грамадзянская супольнасьць не прызналі віны за масавае і пляномернае вынішчэньне беларусаў у Вільні й Віленскім краі ў часы камуністычнага пануваньня. Па-сутнасьці, масавыя рэпрэсіі былі часткай недэкляраванай праграмы ЭТНАЦЫДУ беларускага народу. Нязьдзейсьнены Нюрэнбэрг над камуністычнай ідэалёгіяй і практыкай, непрызнаньне злачыннасьці савецкай палітычнай сыстэмы й адсутнасьць публічнага пакаяньня супярэчыць хрысьціянскай маралі й не вядзе да пакаяньня. Беларускія ўлады сьвядома нявечаць сугрвамадзянаў, вынішчаючы гістарычную памяць (прыкладам зьяўляецца сытуацыя вакол ўрочышча Курапаты), бесаромна ганддюючы незалежнасьцю Беларусі, вяртаючца да выкарыстаньня назапашанага рэпрэсіўнага арсэналу 30-50 гг., што, зразумела, зьяўляецца гістарычным рэцыдывам і простым шляхам у мінулае.

*Падрыхтаваў* ***Сяргей Гвозьдзеў***

***Томаш Пояр***

# Глябалізацыя й дыктатары

Факс, электронная пошта, інтэрнэт, мабільныя тэлефоны, друкаркі, танны транспарт, бесьперапынныя навіны зь іншага боку сьвету... Няма пытаньняў, што ўсе гэтыя сымбалі глябалізацыі дапамагаюць дысыдэнтам, незалежным журналістам ці праваабарончым арганізацыям у змаганьні супраць магутных дыктатараў і аўтарытарных кіраўнікоў. Сьвет, дзе захоўваюцца ўсе правы без выключэньня, а апошнія дыктатары й галаварэзы сядзяць у камэрах міжнароднага трыбуналу, яшчэ ў недасяжнай будучыні. Глябалізацыя сама сабою нічога ня вырашыць. Яна адкрывае вялікія магчымасьці, але зь іншага боку нясе с сабою й вялікую небясьпеку.

Так, па зьнікненьні жалезнае заслоны дэмакратычных дзяржаў стала больш, чым калі. А адзінкавыя дыктатары ня маюць трывалай будучыні. Надыходу свайго канца яны мусяць баяцца нашмат болей, чым у часы, калі пра іхныя лёсы вырашаліся ў Крамлі ці Белым Доме. Сёньня ў Лацінскай Амэрыцы, Сярэдняй і Ўсходняй Эўропе і ў шмат якіх краінах Паўднёваўсходняй Азіі дыхаецца нашмат вальней, чым 15 гадоў таму. Слабадан Мілошавіч увогуле сядзіць у Гаазе, сын генэрала Сухарты стаў перад судом у Джакарце, а Альбэрта Фухіморы хутчэй зьбег у Японію. Ксанана Гусмао стане прэзыдэнтам Усходняга Тымору, а Гуга Чавэз хутчэй за ўсё адвярэ ў Кастра рэвалюцыйны сьцяг, які патроху ператвараецца ў лахманы.

Посьпехаў шмат. Але й сьпіс паразаў таксама не кароткі. Аляксандар Лукашэнка й Робэрт Мугабі паводле зманіпуляваных выбараў уладараць і надалей. Афрыка ляціць у бездань жабрацтва, а мяйсцовыя грамадзянскія войны немагчыма спыніць. Аб дэмакратыі ў Арабскім сьвеце практычна няма чаго й сказаць. Імёны палітычных вязьняў могуць запоўніць некалькі газэтных палосаў, а імёны ўцекачоў і ахвяраў войнаў апошняга дзесяцігодзьдзя без праблемаў запоўнілі-б тысячы кнігаў. Можна пэўна сцьвярджаць, што сьвет не зрабіўся бясьпечным, а праблемаў – меней.

Шмат якія дыктатары навучыліся някепска адаптавацца да новага сьвету. Кітайскія камуністы пасьпяхова блякуюць інтэрнэтавыя старонкі праваабарончых арганізацыяў ці групаў, што змагаюцца з рэжымам на эміграцыі. Садам Хусэйн трывала сядзіць на сваім троне і ў той самы час, калі ірацкія дзеці паміраюць ад недахопу лекаў, будуе сабе новыя палацы. На Кубе інтэрнэт практычна не працуе, а набыць сабе факс ці кампутар можна толькі ў дзяржаўных крамах. Усялякая тэхніка ў закрытых і бедных краінах да тага-ж шмат даражэйшая, чым на Захадзе. Самым удалым чынам супрацьўлеяца глябалізацыі Кім Чын Ір. Коштам мільёнаў ахвяраў з шэрагаў сваіх суграмадзянаў ён узмацняе культ свае асобы. Уплыў навакольнага сьвету ў Пхеньяну амаль незаўважны.

Роськвіт інфармацыйных тэхналёгіяў, скарачэньне адлегласьцяў ды агромністы рух тавараў і людзей сам сабою дыктатараў не зьліквідуе, і нават не аслабіць. Зьяўляецца фактам, што ўсемагутныя ўладары могуць выкарыстоўваць глябалізацыю, а ў пэўны момант яе баяцца...

Зазвычай дэмакратычныя краіны між сабою не ваююць, іх грамадзяне не пакутуюць ад голаду, а ў доўгатэрміновай пэрспэктыве іхны жыцьцёвы ўзровень расьце. Таксама праз глябалізацыю мы ня мусім абмяжоўвацца непасрэднымі суседзямі, а павінныя займацца сытуацыяй ва ўсім сьвеце. Становішча ў Аўганістане, нестабільнасьць на Карэйскай паўвыспе, ірацкая зброя масавага зьнішчэньня ці змаганьне рэфарматарскіх і кансэрватыўных сілаў у Іране датычаць нас сёньня, як ніколі раньней.

Зрабілася зноў сучасным казаць пра нацыянальныя інтарэсы. І трэба ўвесь час паўтараць, што наш нацыянальны інтарэс – гэта пашырэньне прасторы свабоды, дэмакратыі й дабрабыту. Зразумела, што пакуль мы актыўна ня станем супраць навязаных дыктатараў і ідэолягаў, яны скарыстаюць глябалізацыю супраць нас. Аль Кайда ў вайне зь сьветам дэмакратыі й дабрабыту выкарыстала інтэрнэт, спадарожнікавыя тэлефоны, крэдытныя карткі ды глябальныя медыі.

*Пераклад* ***Ільлі Глыбоўскага***
*інфасэрвіс супольнасьці "Чалавек у нядолі"*
*Інфасэрвіс ВС у Празе*

## Суд над журналістамі «Пагоні» зноў адкладзены

Суд над рэдактарам гродзенскай газэты «Пагоня» Міколам Маркевічам і журналістам выдання Паўлам Мажэйкам адкладзены да 4 чэрвеня. На пасяджэнні, што адбылося ў судзе Ленінскага раёне 16 мая, было абвешчана аб пераносе даты суда на 4 чэрвеня з прычыны хваробы пракурора Уладзіміра Рабава. Нагадаем, што першае пасяджэнне (9 красавіка) было адкладзенае таксама з прычыны хваробы суддзі. На прэс-канферэнцыі, якая адбылася пасля пасяджэння суда, рэдактар «Пагоні» Мікола Маркевіч назваў такую ходу справы «татальнай хваробай беларускага правасудзьдзя». На ягоую думку, улады хочаць дачакацца моманту, калі грамадзкая цікавасць да справы зьменшыцца й тады вынесьці пакараньне. Таму ён заклікаў усіх калег і грамадзянаў спрычыніцца да «арганізацыі годнага супраціву» й выказаў пажаданьне, каб на наступнае пасяджанне прыйшло некалькі сотняў чалавек. Газэта «Пагоня» была закрытая 12 лістапада 2001 г. На ўсе спробы рэдакцыі заснаваць новае выданьне гродзенскія гарадзкія ўлады адказваюць адмовай. Мікола Маркевіч назваў гэтыя дзеянні «забаронай на працу». На яго думку, журналістам «Пагоні» забараняюць займацца прафэсійнай дзейнасьцю. Акрамя гэтага, аказваецца ціск на супрацоўнікаў выданьня: некалькі дзён таму быў зьбіты журналіст газэты Юры Гумянюк.

**Вера Дзядок** *(BARCNEWS)*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013